

# свабода

www.svaboda.com
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

№55 (282) 21 чэрвеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478

**ВІНШУЕМ**



*Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ віншуе пісьменніка Васіля Быкава з 78-ым днём народзінаў. Натхнення і здароўя, спадару Васіль! Каб мы ўслед за хрэстаматыйным «Жураўліным крыкам», класічным «Знакам бяды», нядаўняй «Ваўчынай ямай» маглі пачытаць Вашыя новыя творы, гэтак патрэбныя Беларусі.*

# Саюз не вабіць

*18 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка правёў у Мінску нараду, прысвечаную беларуска-расійскім стасункам.*

Ён зазначыў: «У мяне і ў прэзідэнта Расіі не можа быць прынцыповых рознагалоссяў адносна неабходнасці саюзу Беларусі і Расіі». Паводле словаў беларускага лідэра, нядаўняя заява У. Пуціна сведчыць пра тое, што расійскі бок не мае жадання рухацца ў кірунку яднання Беларусі і Расіі: «Усе гады, колькі мы вядзём дыялог у рамках саюзу Беларусі і Расіі, гэты саюз тарпедаваўся найперш з расійскага боку».

«Нам прапаноўваюць федэратыўнае ўладкаванне нашага саюзу, іншымі словамі, стаць новай, 90-й губерняй Расійскай Федэрацыі, – сказаў кіраўнік дзяржавы. – На што мы дакладна кажам: ніякім паўночна-заходнім ці паўночна-ўсходнім краем іншай дзяржавы мы не будзем. Мы – суверэнная, незалежная дзяржава з усімі атрыбутамі гэтай дзяржавы. Мы гатовы будаваць саюз, але толькі на раўнапраўнай аснове».



Фота В.Шлапака

Працяг тэмы на стар. 5

**КРЫМІНАЛ**

## Саджаюць міліцыянтаў

Супрацоўнікі Гомельскага ўпраўлення Камітэту па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй пры МУС Беларусі затрымалі ў Мазыры двух міліцэйскіх чыноў – намесніка начальніка гаррайаддзелу ўнутраных спраў, в. а. начальніка крымінальнай міліцыі падпалкоўніка Каржа і начальніка аддзялення барацьбы з эканамічнымі злачынствамі падпалкоўніка Самсонава.

Ходзяць чуткі, што яны вымагалі хабар у прадпрымальніка, атрымалі 30 тысяч даляраў і... папаліся «на гарачым».

Калі віна арыштаваных будзе даказана, ім пагражае турэмнае зняволенне да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

**КОШТЫ**

## Новыя цэны на бензін і праязныя

На заліўных станцыях «Белнафтахіма» цяпер даводзіцца плаціць 640–660 рублёў за літр АІ-92 і 500 – за салярку і АІ-76. Новыя цэны такія: за АІ-76 – 570 рублёў, за АІ-92 – 725 рублёў і за АІ-95 – 830 рублёў за літр.

Павелічэнне транспартных выдаткаў дасць пра сябе знаць ва ўсім. Прыкладам, ужо з 25 чэрвеня, калі ў продаж паступяць ліпеньскія праязныя білеты, мінчанам давядзецца плаціць даражэй. 9 600 рублёў каштаваў раней праязны на ўсе чатыры віды транспарту, а зараз будзе 13 800 (8 400 за наземныя віды плюс 5 400 за метро).

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# РАБАЎніцтва Свабоды

## *Пракурор просіць зняволіць журналістаў*

**18 і 19 чэрвеня ў Гродне працягваўся працэс па крымінальнай справе супраць журналістаў закрытай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Як вядома, іх абвінавачваюць у публічным паклёпе на прэзідэнта. Дзяржаўны абвінаваўца У. Рабаў патрабаваў асудзіць галоўнага рэдактара «Пагоні» М. Маркевіча да двух з паловай гадоў зняволення ў калоніі агульнага рэжыму. Для 24-гадовага П. Мажэйкі ён прапанаваў 2 гады зняволення.**

У аўторак на судзе адбыліся судовыя спрэчкі. Першым слова атрымаў пракурор. Ён спасылаўся на складанасць справы аб паклёпе на прэзідэнта, паколькі няма судовай практыкі ў гэтай галіне.

Змест абвінавачвання быў раскладзены па пунктах. П.Мажэйка напісаў нататку пад назвай «Ідзем на выбары». Перадаў яе М.Маркевічу, той даў указанне яе публікаваць. А потым рэдактар указаў камп'ютэршчыку А.Салею змясціць нумар «Пагоні» з трыма «крамольнымі» публікацыямі ў інтэрнэт. Аднак журналісты віны не прызналі, патлумачыўшы, што не мелі на ўвазе ў двух нататках і вершы «Абяшчаў, абяшчаю, буду абяшчаць» А.Лукашэнку. Пагатоў у тэкстах ягонае прозвішча не ўзгадваецца. А.Салей тым часам патлумачыў, што не змяшчаў матэрыялаў абодвух скнфіскаваных нумароў у інтэрнэт, паколькі камп'ютэрную тэхніку рэдакцыі сканфіскавала пракуратура.


Фота IREX/ProMedia

У.Рабаў лічыць, што ва ўсіх трох выпадках у публікацыях ідзе мова менавіта пра А.Лукашэнку.

Паводле заканадаўства, газета, пакуль яна не атрымала распаўсюджання, не з'яўляецца сродкам масавай інфармацыі. Як вядома, пільныя органы канфіскавалі каля друкарскага варштату наклады абодвух нумароў газеты. Да чытачоў яна не трапіла.

Аднак пракурор чытачоў знайшоў. Дзве супрацоўніцы друкарні, якія працуюць у газетным цэху, аказваецца, прачыталі верш «Абяшчаў, абяшчаю...»

Што да інтэрнэту, дык нават калі там і былі матэрыялы арыштаваных нумароў, дык доказы злачынства былі здабытыя з парушэннем крымінальна-працэсуальнага кодэксу. Гэта высветліла судовае следства. У адпаведнасці з законам, такія доказы не могуць браца пад увагу, паколькі не маюць юрыдычнай сілы. Пракурор з гэтым згодны. Але ўсё адно просіць суд узяць іх пад увагу, паколькі яны «пацвярджаюць» версію абвінавачання.

А.Салей, як кажа абвінаваўца, «цалкам меў магчымасць» змясціць матэрыялы на сайце газеты. Тое, што «змясціў» – следства так і не даказала. Тым не менш, дзяржаўны абвінаваўца сцвярджае, што матэрыялы гэтыя «змяшчаліся» на сайце. Абарона даводзіла, абапіраючыся на беларускае заканадаўства, што інтэрнэт не разглядаецца ў якасці сродку масавай інфармацыі. А таксама не разглядаецца як спосаб распаўсюджвання паклёпу. Аднак пракурор знайшоў адваротнае сцверджанне і нагадаў суду пра існаванне інтэрнэт-кавярняў, якія маюць дзесяткі кліентаў. На сённяшні дзень прызначаны выступы журналістаў з апошнім словам.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**ЮСТЫЦЫЯ**

## *Прысуд Чыгіру не змяніўся*

Мінскі гарадскі суд вырашыў пакінуць у сіле прысуд для сына былога прэм'ер-міністра краіны Міхаіла Чыгіра – Аляксандра. Яму давядзецца адседзець сем гадоў за кратамі нібыта за садзейнічанне ў крадзяжы аўтамабіляў.

Абаронца і маці асуджанага Юлія Чыгір назвала прысуд «палітычна матываваным». А адвакат Аляксандр Пыльчанка пабаяцца абскардзіць прысуд яшчэ ў Вярхоўным судзе.

Нагадаем, што Чыгір-малодшы быў затрыманы ў лютым 2001 году. Ягоны бацька мяркуе, што такім чынам улада імкнулася перашкодзіць яму пайсці на прэзідэнцкія выбары.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## *Дзіўная смерць чыноўніка Рады бяспекі*

У ноч на чацвер у Магілёве з 10 паверху гасцініцы «Магілёў» выпаў і разбіўся насмерць начальнік аднаго з аддзелаў органаў Рады бяспекі Ігар Голубеў, перадаюць інфармацыйныя агенцтвы. Згодна з заключэннем эксперта, на момант падзення Голубеў быў цвярозы. Паводле папярэдняй версіі, чыноўніку стала кепска, у яго закружылася галава. Яшчэ адна афіцыйная версія – калі Голубеў стаяў ля акна, у яго з кішэні выпала пасведчанне, чыноўнік рэфлекторна памкнуўся яго злавіць і выпаў з акна. Мяркуючы па ўсім, нябожчык суправаджаў Аляксандра Лукашэнку, які цяпер знаходзіцца ў Магілёве, дзе бярэ ўдзел у працы сталага семінару кіраўнічых работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў.

**Максім ПЯТРОЎ**

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**
**1810**

РЭХА

# Брокеры страцілі кантроль над беларусамі

**Станоўчы вынік у працяг тэмы на старонках газеты НАША СВАБОДА № 38 і № 42 ад 2002 г. (артыкулы «Брокер на ўездзе ў Расію», «Пад прыцэлам з блок-паста»).**

17 чэрвеня ў Брэсце на пасяджэнні калегіі Мытнага камітэту саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі расійскі бок абвясціў пра адмену парадку выдачы Пасведчання часовага ўвозу транспартнага сродку (ПУТС), які існаваў дагэтуль. Па словах начальніка ўпраўлення мытнага кантролю Дзяржаўнага мытнага камітэту РБ Сяргея Дзмітрыева, апошняе рашэнне значна спросціць перамяшчэнне нашых грамадзянаў з Беларусі ў Расію. У Смаленскую вобласць, прыкладам, праезд становіцца такім жа вольным, як праз мяжу Брэсцкай і Мінскай абласцей.

Мы рады пра гэта паведаміць, бо НАША СВАБОДА ўважліва даследавала тэму і пісала пра чэргі і таўкатню на адным з 16 аддзелаў расійскага мытнага кантролю «*Красное*», што месціцца на кірунку Орша–Смаленск. За падручную ў мытнікаў па зборы аплаты з беларускіх вадзіцеляў тут была брокерская кантора фірмы «Ростэк-Смаленск». Крыўду і знявагі ад яе супрацоўнікаў мусілі цярпець многія нашы землякі. Асобныя з іх нават наведалі рэдакцыю НС, каб прадставіць доказы пра трату часу, настрою і грошай. Затрымка пры вяртанні ПУТСа, а тым больш ягоная выпадковая страта цягнула за сабою штрафы ад 3 да 30 расійскіх «мінімалак». Затрымка з вяртаннем аўтамабіля ў Беларусь аўтаматычна павялічвала суму штрафаў ад 100 да 300% яго ацэначнага кошту. Пацярпелі ад гэтага сотні людзей, пакуль дэклараваныя саюзнікі рашыліся нарэшце прыкрыць сваю грашовую кармушку, што напаўнялася коштам беларускіх аўтаўладальнікаў.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Шлях у падземны горад

Як паведаміла прэс-служба Мінгарвыканкаму, першы этап рэканструкцыі плошчы Незалежнасці завершаны. Транспартны рух, паводле часовай схемы рэканструкцыйных работ, пушчаны па тым баку плошчы, што каля Чырвонага касцёла і Дому ўраду. Па супрацьлеглым баку, дзе будынкі мінскай мэрыі, метрапалітэну і Белдзяржуніверсітэту, транспарт пойдзе да 1 верасня гэтага году. Там, дзе зараз катлаваны, будуць падземныя пешаходныя пераходы. Адзін з іх павядзе ў падземны горад. Ён будзе ўяўляць сабой чатырохузроўневы цэнтр з гандлёвымі кропкамі і паркінгамі. У мінскай мэрыі абверглі чуткі, што ў выніку будаўнічых работ на плошчы Незалежнасці ёсць пагроза асядання будынкаў на ёй.

**Кірэй МАНУЙЛА**

ТЭАТР

# «Базар» зрывае гастролі

Традыцыйныя гастролі Купалаўскага тэатру ў Віцебску сёлета не адбыліся. Гастролі былі адмененыя, паводле адной версіі, з-за недахопу грошай на іх правядзенне. Паводле іншай версіі, гастролі проста перанеслі, каб далучыць спектаклі купалаўцаў да тэатральнай праграмы «Славянскага базару».

Тым часам віцебскі тэатр, чый прыезд у Мінск быў таксама адменены, цяпер збіраецца ў Бон, на тамтэйшае тэатральнае «Біенале». Гэты фестываль у Нямеччыне збярэ 26 тэатраў, абраных спаміж 80 кандыдатаў. Віцебскі тэатр імя Коласа апынуўся ў адной кампаніі з Каралеўскім Шэкспіраўскім тэатрам і іншымі славутымі тэатрамі свету. Коласаўцы пакажуць п'есу свайго галоўнага рэжысёра Віталя Баркоўскага «Мадам Бонашэ».

**Міхаіл ЧАРВІНСКІ**

АДПАЧЫНАК

# Пуцёўкі ў лета

***Плануецца, што гэтым летам у розных аздараўленчых лагерах адпачнуць блізу 460 тысяч беларускіх дзяцей і падлеткаў. Адна палова з іх паедзе ў летнікі з кругласутачным знаходжаннем, другая палова – з дзённым.***

Датацыі з сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на адну пуцёўку ў летнікі гэтых двух тыпаў складаюць адпаведна 110 і 45 тысяч рублёў. Разам з тым да арганізацыяў, што ўтрымліваюцца за кошт рэспубліканскага бюджэту, даведзена, каб яны кампенсавалі сваім работнікам частку выдаткаў пры набыцці пуцёвак у дзіцячыя аздараўленчыя летнікі з кругласутачным знаходжаннем у памеры 55 тысяч рублёў. Кошты пуцёвак у летнікі вагаюцца ад 150 да 200 тысяч рублёў, і такім чынам, з улікам датацыяў і кампенсацыяў, адпраўка дзяцей за горад у летнік абыдзецца бацькам даволі танна.

Адно што бацькоў можа трывожыць стан беларускіх аздараўленчых летнікаў. У звязку з адсутнасцю належных умоваў штогод некалькі з іх зачыняюцца. Сёлета не адкрыюцца яшчэ 4 летнікі. Пра будаўніцтва новых, сучасных гаворка, натуральна, не ідзе.

Асабліва дрэнная сітуацыя з так званымі школьнымі летнікамі, у якіх дзеці бавяць час толькі ўдзень. Такія летнікі працуюць з парушэннямі належных умоваў утрымання дзяцей. У прыватнасці, вучні пачатковых класаў не спяць тут і ядуць толькі 1–2 разы замест неабходных 3–4.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Барысаву даюць ваду і выпускаюць пару

За 9 дзён да 900-гадовага юбілею Барысава вуліцы гораду – у будаўнічых руінах. План добраўпарадкавання правальваецца, бо замахнуліся адрамантаваць шмат што, а грошай засталося на драбязу. Цалкам абнавілі толькі цэнтральную плошчу. Нават жыхары з блізкіх да яе вуліцаў Індустрыяльнай і Пятраева занепакоены, што ўвосень іх чакае бездарожжа. Колькасць скаргаў павялічваецца, і ўсё больш гучыць галасоў, якія жадаюць паспрачацца пра цяжкасці жыцця з Лукашэнкам. Дзеля ягонага прыезду круглыя суткі не спыняецца праца на аб'ектах новага водазабору. Зараз вада ў кватэры падаецца па графіку, а ўжо на свята краны не павінны быць сухімі. Аднак перш чым даць людзям ваду, у Барысаве выпускаюць пару сацыяльнага гневу. Група чыноўнікаў з аблвыканкаму на чале з Аленай Чагляцовай тэрмінова арганізавала прыём грамадзянаў па месцы жыхарства. Заяўнікам у чарговы раз паабяцалі паскорыць вырашэнне іхных праблемаў. Асабліва «крыклівыя» наўрад ці паспеюць да гэтага патрапіць праз міліцэйскія кардоны на гутарку Лукашэнкі з народам.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

ЧЭРВЕНЬСКІЯ ЗАБАЎКІ

Спёка – дзіцячае шчасце

ЗАЛАТОЕ РАЗВІТАННЕ

# 450 000 рублёў для… беспрацоўнага

## *Фенаменальныя льготы атрымліваюць адстаўныя чыноўнікі*

660 прадпрыемстваў і ўстановаў беларускай сталіцы заявілі ў Мінскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва пра планаванае скарачэнне штатнага персаналу. Выкід лішніх людзей на рынак працы перавысіць у летні перыяд 8 тысяч чалавек. Гэта пры тым, што паводле стану на 1 чэрвеня на ўліку ў Мінску зарэгістраваныя 14 143 беспрацоўныя. Дырэктар сталічнай біржы працы Уладзімір Мяцельскі кажа пра пачатак масавых скарачэнняў, у тым ліку сярод служачых дзяржапарату. Але калі шараговым шукальнікам новага вакантнага месца можна паспачуваць, бо дапамога па часовым беспрацоўі складае ў сярэднім 25 тысяч рублёў, то былым дзяржслужачым даводзіцца пазайздросціць. 266 чыноў без кабінетаў атрымліваюць у Мінску грашовую штомесячную кампенсацыю ў суме да 450 тысяч рублёў. Як правіла, яны ігнаруюць якія-небудзь прапановы па працаўладкаванні цягам двух і больш гадоў. Пра іхні дабрабыт загадзя паклапаціліся распрацоўшчыкі Закону аб дзяржслужбе.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ВАНДАЛІЗМ

# Чацвёрты падпал

## *Мінскія школьнікі спалілі царкву*

З 27 студзеня да цяперашняга часу заставалася невядомым, хто і чаму здзейсніў падпал у царкве Узнясення Святога Крыжа ў вёсцы Каралёў Стан Мінскага раёну. Вернікі прасілі ў сваіх малітвах справядлівага пакарання, а міліцыя вывучала пакінутыя сляды і доказы.

Як паведаміў следчы ўпраўлення следчага камітэту па Мінскай вобласці Юрый Кухарскі, у дзёрзкім злачынстве абвінавачваюцца два непаўналетнія вучні 10 і 11 класаў адной са школаў сталіцы. Сваю віну хлопцы прызнаюць цалкам.

Падпальшчыкі лічылі сябе, як высветлілася, неаязычнікамі і ставіліся да хрысціянства як да ворага. Старую драўляную царкву, што кожны раз траплялася ім па дарозе на бацькоўскае лецішча, яны палічылі прыдатным месцам, каб выявіць гэтую варожасць. Узламаўшы замок, малалетнія антыхрысты забралі 30 тысяч рублёў са скрыні для ахвяраванняў, звалілі ў кучу царкоўнае начынне і падпалілі.

Паводле міліцэйскага ўліку, наўмысны падпал царквы ў вёсцы Каралёў Стан – чацвёрты такі выпадак на Міншчыне за тры апошнія гады.

**Галіна БАРАВАЯ**

ВЫХАВАННЕ

# Будні патрыётаў

**Куды падзець сябе маладому чалавеку ўлетку, калі няма магчымасці з'ехаць на вакацыі ў вёску ці на які-небудзь курорт, калі сумна бадзяцца па асфальце з заўсёдным відам на машыны і шматпавярховікі і няма ахвоты бавіць час у лагерах, якія калісь называліся піянерскімі?**

Маладзёжнае аб'яднанне «Зялёны дуб» прапануе альтэрнатыву – уласныя летнікі: на гэтае лета арганізоўваюцца тры змены працягласцю па два тыдні. Перад тым як распавесці пра жыццё ў такім летніку, трохі пра саму арганізацыю, што мае досыць вядомую ў Беларусі назву «Зялёны дуб». Кіраўнікі гэтага маладзёжнага аб'яднання кажуць, што яны працуюць на патрыятычнае і экалагічнае выхаванне беларускай моладзі ў веку ад 14 да 20 гадоў, у тым ліку з так званымі цяжкімі падлеткамі. Гэта і пераходны ўзрост, калі маладому чалавеку неабходныя нейкія арыенціры і ідэалы, і дапрызыўны, то бок самая пара для патрыятычнага выхавання. У летніках, без лагодных гарадскіх умоваў і выгодаў, хлопцы правяраюць, чаго яны вартыя, што яны могуць, што ўмеюць, як суадносяцца іхнія словы і справы. Рэжым летнікаў «Зялёнага дуба» выключае тыповае для нашай моладзі баўленне часу, якое не абыходзіцца без алкаголю ды іншае шкоды. «Зялёнадубаўцы» згадваюць, як летась да іх у летнік прыбылі два хлопцы з заплечнікамі, напакаванымі півам ды чыпсамі: маўляў, вось за які мы адпачынак. Фізічная падрыхтоўка, набліжаная да спецназаўскай, і дапамога лясніцтву прыйшліся ім недаспадобы, таму яны былі змушаныя з'ехаць дадому. У летніках «Зялёнага дуба» няма месца ані піву, ані дыскатэкам. Тут пануе жорсткая мужчынская дысцыпліна. Такім чынам, бацькі могуць быць упэўненыя, што іхнія дзеці не будуць займацца ў летніку «Зялёнага дуба» абы-чым. Апрача фізічнай падрыхтоўкі і працы па прыборцы лесу, у моладзі ёсць чым заняць і галаву: аповеды пра гісторыю і культуру Беларусі.

**Г. Б.**

# «Народнай волі» перакрылі кісларод

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

*Заблакаваны рахунак незалежнай газеты «Народная воля». Суддзя Людміла Грачова вырашыла такім чынам забяспечыць недатыкальнасць сродкаў, якія тэарэтычна могуць быць адсуджаныя ў выдання двума жодзінскімі суддзямі. Газета пакуль працягвае выходзіць.*

Як паведаміў нам галоўны рэдактар «Народнай волі» Іосіф Сярэдзіч, рашэнне заблакаваць рахунак газеты было прынятае ў аўторак. Але разгляд іску, па якім мусяць адказваць газета і яе аўтар, можа пачацца не раней за 29 ліпеня.



Галоўны рэдактар патлумачыў нам сутнасць справы. Сакратар Саюзу юрыстаў Мінскай вобласці У.Іваноў даслаў у «Народную волю» матэрыял пра спрэчныя вырашэнні кватэрных пытанняў у Жодзіне. У артыкуле, надрукаваным газетай, былі ўзгаданыя дзеянні двух суддзяў з гэтага гораду. Тыя палічылі сябе абражанымі, а падачу фактаў – тэндэнцыйнай, і падалі ў суд на газету. Сума іскаў – па два з паловай мільёны рублёў.

Іхняя калега па цэху вырашыла датэрмінова забяспечыць наяўнасць сродкаў для кампенсацыі маральнай шкоды – хоць суд яшчэ не адбыўся, і зусім не відавочна, што ён прымусіць газету плаціць кампенсацыю.

Па словах І. Сярэдзіча, блакіроўка рахунку балюча ўдарыць па выданні – няма з чаго набываць газетную паперу, аплачваць друк, выдаваць заробкі супрацоўнікам, плаціць падаткі. Аднак галоўны рэдактар адмовіўся назваць дакладны памер стратаў, якія панесла «Народная воля». Ён спадзяецца на лепшае.

Адразу пасля таго, як І.Сярэдзіч дазнаўся пра арышт рахунку, ён паспрабаваў звярнуцца да суддзі. Але тая паспела сысці ў адпачынак. Тады надзея – на вышэйстаячы орган. Учора ранкам галоўны рэдактар збіраўся ў Судовую калегію па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суду. Там ён хацеў прапанаваць, паводле літары закону, іншую маёмасць рэдакцыі ў якасці фінансавай гарантыі. У момант, калі гэты нумар здаваўся ў друк, вынік звароту І.Сярэдзіча быў невядомы.

Хоць пакуль што Іосіф Паўлавіч так і праяміняцца аптымізмам, насамрэч ёсць нагода сур'ёзна падумаць пра далейшы лёс незалежнай беларускай прэсы.

Сітуацыя на рынку масмедыя значна пагоршылася. Першай ахвярай стала гарадзенская «Пагоня». Ёй «прышылі чыстую палітыку», і цяпер выдання няма, а галоўны рэдактар і журналіст знаходзяцца пад пагрозай турэмнага зняволення толькі за тое, што напісалі некалькі радкоў (якіх ніхто не паспеў пабачыць).

Прыклад «Народнай волі» паказвае, што газету можна закрыць і эканамічным шляхам. Хто можа гарантаваць, што заўтра супраць газеты, гэтай або любой іншай, не будуць пададзеныя яшчэ дзесяць іскаў, і на такую суму, што за год не зарабіць? Суддзя вырашыць, што «трэба забяспечыць», і тады ўсё. Параліюш. Рахунак пад арыштам, тэхніка і іншая маёмасць апісаная...

Атрымліваецца, што суд у дадзенай сітуацыі можа адыгрываць ролю найжарстчэйшага цэнзара. Судовая ўлада, канешне, незалежная. Але ў кожнага суддзі кватэра службовая. І прымаючы рашэнне, правільнае і справядлівае, ён кіруецца яшчэ і інтарэсамі сваёй сям'і.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

# АНТ і ОРТ: знайдзіце розніцу

**На наступным тыдні, 25 чэрвеня, у эфіры з'явіцца Агульнанацыянальнае тэлебачанне. Такім чынам, пасля шматгадовай БТшнай манаполіі акрэсліваецца нейкая разнастайнасць; але, прынамсі, першыя паўгода вялікай розніцы ў беларускім эфіры мы не заўважым.**

Нагадаем, АНТ будзе выходзіць на кнопцы расійскага каналу *ОРТ* і ўсяго толькі з адной сваёй арыгінальнай праграмай – паўгадзіннымі выпускамі «Нашых навінаў» у 20.35. Як мяркуюць кіраўнікі АНТ, такая сітуацыя працягнецца некалькі месяцаў, але потым з'явяцца новыя праграмы.



Рыгор Кісель – старшыня праўлення ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал»

Таму пакуль што слоган АНТ з рэкламных шчытоў на мінскіх вуліцах і з адмысловага рэкламнага ролiку, які круціцца на тэлебачанні, адпавядае праўдзе: «Не замест, а разам» (*«Не вместо, а вместе»*). Гэтае *«вместе»* будзе выяўляцца яшчэ і ў тым, што Агульнанацыянальнае тэлебачанне збіраецца вяшчаць па-руску.

Рэтрансляцыя перадач *ОРТ* гарантуе АНТ немалы рэйтынг. Зараз *ОРТ*, з якім будзе дзяліць кнопку Агульнанацыянальнае тэлебачанне, глядзяць 85% беларусаў. Гэта калі верыць вынікам апытання, праведзенага Цэнтрам сацыялагічных даследаванняў Інстытуту сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта. Паводле таго ж апытання, БТ паводле глядзельнасці толькі на трэцім месцы ў нашай краіне пасля каналу *РТР*. Першы нацыянальны быццам бы глядзяць 52%. Але нават 85% мінус 52% – розніца паміж рэйтынгамі *ОРТ* (чытай таксама АНТ) і *БТ* уражвае.

Дарэчы, падчас згаданага апытання жыхарам Беларусі задавалася таксама пытанне, ці варта ў нас наогул адкрываць другі нацыянальны канал. Дык вось, палова рэспандэнтаў адказала, што такой патрэбы няма. Відаць, не таму, што ім хапае БТ: проста яны не вераць, што з другога тэлеканалу можа атрымацца нешта годнае і, галоўнае, адрознае ад БТ.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Грамадзянін – за 50 000 еўра?

*У аўторак патэнцыйныя інвестары страцілі надзею на аблегчанае атрыманне беларускага грамадзянства*

**Група дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу – Аляксей Ваганаў, Кірыл Халопік, Васіль Хрол і іншыя – прапанавала папраўку да закону «Аб грамадзянстве»: калі хто інвестуе ў беларускую эканоміку хаця б 50 000 еўра, то можа прэтэндаваць на хуткае атрыманне пашпарту грамадзяніна Беларусі. Папраўка, на жаль, не прайшла – а то прэзідэнт быў бы выдатны.**

Паводле закону, асоба, якая хоча атрымаць беларускае грамадзянства, мусіць выканаць шэраг умоваў: жыць у Беларусі, ведаць хоць адну з нацыянальных моваў, мець легальную крыніцу існавання, паслухмяна прытрымлівацца ўсіх законаў і г. д. Звычайны тэрмін, на працягу якога неабходна жыць тут, каб прэтэндаваць на грамадзянства, – сем гадоў. Але для некаторых катэгорыяў людзей гэты тэрмін можа быць скасаваны прэзідэнцкім рашэннем. Сярод іх могуць быць навукоўцы, спартоўцы, іншыя выбітныя людзі, якія маглі б прынесці Беларусі міжнародную славу і прызнанне.

Як паведаміў нам Кірыл Халопік, дэпутацкая група садзейнічання эканамічнаму развіццю, да якой ён належыць, прапанавала дадаць да гэтага спісу яшчэ і бізнесоўцаў – каб напоўніць эканоміку дзяржавы новымі інвестыцыямі.

Сапраўды, спартоўцаў у нас сваіх хапае, а вось людзей справы – усё меней. Па аб'ёме замежных інвестыцыяў у беларускую эканоміку за апошнія дзесяць гадоў мы займаем ледзьве не апошняе месца ў Еўропе – 300 мільёнаў даляраў. Праўда, закон «Аб бюджэце на 2002 год» вызначыў новыя даляглядзы – 2 мільярды даляраў, або па 2 тысячы даляраў на чалавека. Але прайшло ўжо амаль паўгода, а ніякіх зменаў не відаць.

Адкуль узялася сума ў 50 000 еўра? Па словах К.Халопіка, ініцыятары папраўкі падлічылі: такую суму нельга атрымаць проста ад продажу сваёй кватэры. Чалавек, які можа прапанаваць нашай краіне 50 000 еўра, ужо дасвечаны бізнесовец і можа зарабіць для нас яшчэ больш.

Пры гэтым ад замежніка патрабавалася б не толькі інвеставаць названую суму, але і стварыць тут не меней за 5 працоўных месцаў. І толькі пасля гэтага ён бы атрымліваў магчымасць хадайнічаць перад прэзідэнтам аб скасаванні сямігадовага тэрміну асіміляцыі. А ўжо той бы сам вырашаў: даваць гэтаму замежніку грамадзянства або не.

Аднак папраўка не прайшла: большасць дэпутатаў не пагадзілася на такі незвычайны шлях прыцягнення інвестыцыяў у нашу краіну.

Адны палічылі, што да нас адразу кінуцца тысячы, калі не мільёны, бандытаў і прайдзісветаў з розных краінаў – абы здабыць прэстыжныя сінія «коркі» і трапляць толькі пад «самы гуманны суд у свеце».

Другія адзначылі, што сума вельмі маленькая. Гэта ж каб набраць інвестыцыяў усяго на мільён даляраў, прыйдзецца раздаць больш за дваццаць пашпартоў!

А вось яшчэ адна групоўка парламентарыяў праявіла сябе сапраўднымі расістамі: яны таксама былі б згодныя раздаваць пашпарты за інвестыцыі замежным грамадзянам, але толькі пры ўмове, што яны будуць... славянамі. Ніякіх там афганцаў, амерыканцаў або габрэяў яны не пацерпяць! Іхнім марам таксама не суджана было збыцца – а то б ужо наладзілі выраб лінеек для абмеру чарапоў, лякалаў, каб спраўджваць форму вушэй, і іншага кантрольна-вымяральнага абсталявання для фільтрацыі замежных інвестараў.

Кірыл Халопік лічыць, што іхняя папраўка магла б прайсці – калі б не выступ у апошні момант прадстаўніка Міністэрства ўнутраных справаў, які сказіў яе сутнасць, назваўшы прапанову «продажам грамадзянства».

Сярод паправак, якія прайшлі, – поўнае адмаўленне падвойнага грамадзянства. Іншымі словамі: калі ты маеш грамадзянства Беларусі, то адначасовая прыналежнасць да грамадзянства іншай краіны законам не прызнаецца. Такім чынам, ніводзін грамадзянін Беларусі не зможа ўхіліцца ад выканання грамадзянскіх абавязкаў – сплаты падаткаў, службы ў арміі і г. д.

Па новым праекце закону, адмовіцца ад грамадзянства Беларусі, каб стаць асобай без грамадзянства, немагчыма.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА

*У гэтым годзе эканоміка паступова раскручваецца.*

**М.КОРБУТ, міністр фінансаў РБ**



# Каго любіць Малады Фронт?

## *Цень расколу над шыхтамі моладзі, якая хоча весці «Беларусь у Еўропу»*

***Чацвёрты Сойм незарэгістраванага Маладога Фронту прайшоў 16 чэрвеня ў Мінску. На наступныя два гады старшынём арганізацыі пераабраны Павел Севярынец. Са 170 маладафронтаўцаў-дэлегатаў Сойму 89 прагаласавалі за абранне П. Севярынца, а 71 сябра арганізацыі аддаў перавагу Вадзіму Саранчукову з Гродна.***

Пярэдадзень і правядзенне Сойму суправаджаліся шэрагам скандалаў. Напачатку Мінгарвыканкам адмовіў МФ у арэндзе пад форум памяшкання ў ДК «Сукно» ў Мінску на той падставе, што нібыта «заяўка не адпавядае вышэй пералічаным патрабаванням, не ўказаны: прозвішча, імя, імя па бацьку арганізатараў, іх месца жыхарства і працы (вучобы), меры па забеспячэнні грамадскага парадку…»

Другі скандал выбухнуў непасрэдна ў залі з'езду: ахова МФ зладкавала вобшук карэспандэнткі часопісу «Форум Лямбда», забрала некалькі нумароў выдання і груба выставіла яе з памяшкання. Працяглая і непрыхаваная варажнеча паміж лідэрамі МФ Паўлам Севярынцам і Беларускай лігі сексуальных меншасцяў «Лямбда» Эдвардам Тарлецкім – даўно ні для кога не сакрэт, аднак гэта не падстава для публічнай знявагі журналісткі і публічнага вобшуку. Тут патыхае «карычневай чумой».

За знешне спакойным фасадам МФ хаваюцца сур'ёзныя праблемы. Колькасць намеснікаў старшыні МФ, як і планавалася, скарацілася з сямі да пяці. Вадзім Саранчукоў, якому прапанавалі пасаду намесніка, адмовіўся ў знак пратэсту; ужо абраны намеснікам Андрэй Мялешка выйшаў з Маладога Фронту ўвогуле. Ужо пасля з'езду, 17 чэрвеня, Гродзенская арганізацыя МФ напісала (але не прыняла) заяву пра самароспуск. В. Саранчукоў угаварыў калегаў супакоіцца, паабяцаўшы разгледзець тактыку далейшых дзеянняў арганізацыі. Павел Севярынец і сам не хавае, што ў рэгіёнах незадаволенасць палітыкай цэнтру МФ расце. «Не толькі гарадзенцы падымалі вострыя пытанні – яшчэ некалькі рэгіянальных арганізацыяў (Магілёўская, Бабруйская; на Гарадзеншчыне не толькі гарадская, але і абласная арганізацыя – яна ў нас традыцыйна моцная) заклапочаны арганізацыйнымі праблемамі. Якраз гэтае пытанне і стала адным з асноўных на Сойме», – сказаў П. Севярынец.




Фота В.Шлапака

**Маладафронтаўцы на маршы (архіўны здымак)**

Сярод значных праблемаў – кадравая, якую Сойм МФ вырашыць не здолеў. «Я не згодны з абраннем Паўла Севярынца, з ягонай камандай, з планам дзеянняў, які яны прапанавалі. Я прапаноўваў структурызацыю нашай арганізацыі, новых людзей, новыя ідэі, – кажа Вадзім Саранчукоў. – Праграма Севярынца ёсць сляпая калька праграмы, прынятай два гады таму, і тыя людзі, якія зараз прыйшлі ў кіраўніцтва МФ, – тая самая каманда. Калі гэта, вядома, можна назваць камандай, бо не бывае каманды з аднаго чалавека, які дыктуе свае ўмовы».

«У МФ расколу ніякага не будзе. У рамках МФ здаровыя сілы будуць працягваць працаваць, і я ўпэўнены, што праца здаровых сілаў прывядзе да поспеху нашай арганізацыі. Рэгіёны незадаволеныя пераабраннем Севярынца старшынём Маладога Фронту; я меў шмат размоваў з рэгіянальнымі старшынямі, але не думаю, што гэтая незадаволенасць можа прывесці да расколу арганізацыі», – заяўляе В. Саранчукоў.

Між тым галоўная праблема ў наладжванні эфектыўнай працы МФ – гэта сам ягоны старшыня, Павел Севярынец. «Не можа старшыня, які пры прыняцці рашэння кіруецца толькі сваёй думкай, прымаць нейкія канструктыўныя рашэнні і канструктыўна іх выконваць. Вельмі добра, што была прынятая стратэгічная праграма, якую я прапаноўваў. Але не могуць прыйсці новыя думкі са старымі людзьмі, і старыя людзі, якія працавалі раней, не могуць змяніць стыль сваіх паводзінаў, працаваць так, каб рэалізаваць нашую праграму», – падкрэсліў Вадзім Саранчукоў.

На абвінавачанні ў аднаасабовым прыняцці рашэнняў Павел Севярынец адказаў: «У нас прынята пастанова пра стварэнне Палітычнай рады менавіта дзеля таго, каб рашэнні прымаліся больш калегіяльна. Я сам быў аўтарам гэтага дакументу. Мне цяпер 25 гадоў, а старшынём можна быць да 31 года. Я цудоўна разумею, што справы трэба паціху перадаваць ужо зараз. Што і адбываецца».

Старшыня МФ нават не дапускае магчымасці расколу ў арганізацыі. «Гэтага не будзе. Асобныя сябры могуць пакінуць арганізацыю – кожнае лета адбываецца адток людзей. Але пасля абароны Курапатаў і кампаніі «Беларусь у Эўропу» адбыўся прыток. Гэта натуральны працэс для моладзевага руху. Далучэнне вольнае, выхад – таксама, тым больш, што мы не зарэгістраваныя».

Што да стратэгіі развіцця МФ на бліжэйшыя два гады, то Павел Севярынец характарызуе яе так: «Арганізацыйнае ўзмацненне МФ за кошт стаўкі на рэгіянальныя структуры… стаўка на канкрэтнага чалавека, для якога мы павінны распрацаваць нацыянальную ідэю; кожнаму маладому чалавеку, які прыйдзе да нас: камп'ютэршчыку – камп'ютэрная нацыянальная ідэя, аматару піва – піўная, футбалісту – футбольная. Другі пункт – гэта спроба аб'яднання нацыянальных моладзевых сілаў, а ў перспектыве – і ўсяго нацыянальнага руху, пад лозунгам «Люблю Беларусь». Гэта самая свежая фармулёўка нацыянальнай ідэі, і нам здаецца, зараз яна можа спрацаваць – яна пазітыўная, моцная, ёмістая, універсальная». У кааліцыю могуць увайсці ЗБС, Маладая Грамада, Маладыя сацыял-дэмакраты.

**Рыгор БУЯН**

**ДУМКА ПАСПАЛІТАЯ**

Слоган «Люблю Беларусь» апрыёрна не можа ўзняцца да вышыні нацыянальнай ідэі. Усё жывое любіць мясціны, дзе нарадзілася. Тым болей людзі. Але не ўсе людзі любяць дзяржаўны лад у сваіх дзяржавах, а без дзяржавы не можа ўвасабляцца ў рэчаіснасць нацыянальная ідэя. Прыкладам, індзейцы любяць Амерыку, але наўрад ці яны любяць дзяржаву, у якой ім даводзіцца пачуваць рэзлітамі. Тое ж можна сказаць і пра аўстралійскіх абарыгенаў, якія любяць Аўстралію, але не любяць дзяржаву Аўстралія, якая пакінула ім невялічкія рэзервацыі. Рэзервацыйны статус пагражае і беларускамоўным беларусам. У іх іншая нацыянальная ідэя, чым у рускамоўных беларусаў, не кажучы ўжо пра мігрантаў. Безумоўна, што Беларусь любяць міліцыянты, якім загадваюць біць людзей дубінкамі пры разгонах мітынгаў і маршаў. Любяць яе і тыя, каго б'юць і затрымліваюць міліцыянты на маршах. Як ім пагадзіцца ў сваёй любові да Беларусі? Адны любяць Беларусь рахманых і памяркоўных. Іншыя, наадварот, – Беларусь мужных і свядомых. У паўстанцаў Каліноўскага быў сімвалічны пароль: «Каго любіш?» – «Люблю Беларусь!» – «То ўзаемна!». Але ўзаемнасці ў любові ў нас не назіраецца. Таму тая любоў да Беларусі, якую прапануе маладафронтаўская ідэалогія, нагадвае манную кашу для сняданка ў дзіцячым садзе.

**ПАКАРАННІ**

## Арыштны дом

У мінулы аўторак, 18 чэрвеня, у Магілёве ў калоніі УЖ 15/18 адкрыўся першы ў Беларусі арыштны дом. Гэта – асобны будынак, разлічаны на 170 месцаў, адмыслова пабудаваны для адбывання пакарання ў выглядзе арышту тэрмінам да 6 месяцаў. Згодна з новым заканадаўствам, такому пакаранню могуць падвяргацца асобы, якія ўчынілі няцяжкія злачынствы. Рэжым утрымання ў арыштным доме прыраўнаваны да камернага турэмнага. Аднак пры гэтым, у адрозненне ад калоніі, чалавек ізаляваны не толькі ад грамадства, але і ад зносін са злачынным асяроддзем.

Па рашэннях судоў у Беларусі зараз да адной тысячы чалавек адначасова адбываюць 6-месячны арышт. Цягам аднаго году на гэта асуджваецца прыкладна 3-4 тысячы дробных злачынцаў.

**Канстанцін УВАРАЎ**

# Прэферэнцыі пад пагрозай адмены

**10–15 чэрвеня ў Жэневе прайшла 90-я канферэнцыя МАП, на якой планавалася заслухаць справаздачу беларускага ўраду пра выкананне рэкамендацыяў МАП. 15 чэрвеня мінулага году Адміністрацыйная рада МАП унесла Беларусь у «спецыяльны параграф» – чорны спіс краінаў, дзе груба парушаюцца правы прафсаюзаў. «Спецпараграф» быў своеасаблівым папярэджаннем для цывілізаванага свету, што да супрацоўніцтва з краінай трэба падыходзіць вельмі асцярожна. Сёлета ўрад мусіў расказаць, што зроблена за год і ці выпраўлена сітуацыя.**

Пра становішча, якое складаецца з «беларускім пытаннем» у МАП, распавядае прэзідэнт Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Мікалай Канах.

– 15 чэрвеня пытанне па Беларусі не разглядалася, бо прадстаўнікоў ад ураду Беларусі не было. Група працоўных зрабіла жорсткую заяву з тае нагоды, што Беларусь прынятая ў Адміністрацыйную раду і да гэтай канферэнцыі абяцала вырашыць усе праблемы з прафсаюзамі. Група працоўных заявіла, што недапушчальна быць сябрам Адміністрацыйнай рады і пры гэтым ігнараваць яе рашэнні і нават не з'яўляцца на канферэнцыі. Урад вызначыў сваім партнёрам старшыню новага прафсаюзу Мінскага аўтазаводу – ён быў заяўлены як прадстаўнік працоўных, і прасіў перанесці разгляд пытання па Беларусі на верасень. Знайшлі адгаворку, што яны былі не гатовыя вырашыць праблемы, але да верасня здолеюць гэта зрабіць.

*– Чаму на верасень? Ці не звязана гэта з 4-ым з'ездам Федэрацыі прафсаюзаў, з намерам улады стварыць альтэрнатыву ФПБ?*

– Да верасня, відаць, улада плануе разбурыць Федэрацыю прафсаюзаў, стварыць новыя арганізацыі і з іх ліку выбраць новых партнёраў. Хоць сам факт умяшання ўладаў у развіццё прафсаюзаў – ёсць парушэнне Канвенцыі МАП. Дый наўрад ці гэтыя «жоўтыя» арганізацыі будуць прызнаныя, бо яны ствараюцца з ініцыятывы не працоўных, а ўраду ды іншых адміністрацыйных структураў.

У нас былі шматлікія сустрэчы, у тым ліку і з прэзідэнтам Бюро МАП Самавеем. У ліпені ён мае намер прыехаць спачатку ў Маскву на сустрэчу з Пуціным, а затым – і ў Беларусь, сустрэцца з кіраўніцтвам краіны па гэтым пытанні. Калі краіна парушае асноўныя канвенцыі МАП, гэтая краіна можа страціць прэферэнцыі – льготныя правы на гандаль у Еўрапейскім Саюзе. Рыхтаваць візіт прыедзе спярша высокапастаўлены чыноўнік МАП Кэры Тапіёла (ён летась прыязджаў на Беларусь, і яго сустракалі на вельмі нізкім урадавым узроўні).

*– Нягледзячы на крытыку ў адрас беларускіх уладаў, Беларусь абралі намеснікам сталага сябра Адміністрацыйнай рады МАП. Што гэта азначае?*

– Сам факт абрання Беларусі намеснікам сталага сябра Адміністрацыйнай рады МАП невыпадковы: будучы ў Адміністрацыйнай радзе, Беларусь не толькі мусіць выконваць рашэнні і рэкамендацыі, але і патрабаванні да ўраду будуць большыя. Мы мяркуем, што эфект ад такога абрання будзе станоўчы.

**Юрась ДУБІНА**

# І ты, Брут

## Жырыноўскі лічыць А. Лукашэнку слабадушным

**Віцэ-спікер расійскай Дзяржаўнай думы, старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі Уладзімір Жырыноўскі ў інтэрв'ю радыёстанцыі «Эхо Москвы» назваў любімы твор прэзідэнта А. Лукашэнкі – Саюзную дзяржаву Беларусі і Расіі – «вельмі штучнай канструкцыяй».**



З уласцівай яму блазнаватай шчырасцю кіраўнік расійскіх лібдэмаў расказаў пра пачатковыя падставы ўзнікнення СБР: «Гэта рабілася пад Ельцына, бо меркавалася, што ён не зможа выйграць выбары ўнутры краіны, і там, на якім-небудзь канстытуцыйным органе ў выглядзе парламенту, абраць Ельцына ўжо кіраўніком гэтай дзяржавы: Расія – Беларусь. Цяпер Пуціну гэтага не трэба, бо ў яго няма пагрозы прайграць бліжэйшыя выбары. А стварэнне вось гэтай штучнай канструкцыі – гэта запаволенае прыняцце палітычнага рашэння. Нам гэта не патрэбна».

На думку Уладзіміра Вольфавіча, «Пуціна не задавальняе якраз тая формула, канцэпцыя, якая праводзілася гэтыя 10 гадоў, – гэта значыць спроба аднаўлення ў ружовым варыянце СССР, калі будуць зноў агульнасаюзныя органы – міністэрствы, парламент, і Расія зноў будзе як бы дугарадная тут. І гэта зноў будзе вельмі крохка. Ужо ёсць гэтае аб'яднанне: Расійская Федэрацыя – па-руску гэта і ёсць расійскі саюз»

Таму, лічыць Жырыноўскі: «Няхай у яго ўваходзяць паўнапраўнымі чальцамі ў выглядзе губерняў. Трэба перайсці да тэрытарыяльнага прынцыпу дзялення – 30 губерняў па 5 мільёнаў. Мінская і Магілёўская – дзве губерні па 5 мільёнаў».

Паколькі гэты вядомы палітык хутка рэагуе на змены палітычнага надвор'я і дакладна прадказвае (ці агучвае) маючыя адбыцца падзеі, дык варта ўзяць пад увагу яго меркаванне, што А. Лукашэнка пагодзіцца са стратай самастойнасці Беларусі. «Праз некаторы час ён пагодзіцца, – лічыць Жырыноўскі, – бо гэта будзе нармальная тэндэнцыя, нармальнае будзе, нарэшце, дзяржава. Ну нельга зноў рабіць «Трышкін кафтан» – напаніхваем зноў у межах нейкага канстытуцыйнага акту Беларусь, Украіну, Узбекістан, ГУАМ, МУАМ, Мытны саюз... – цяпер жа не разабрацца, колькі ў нас ужо структур СНД. Вы разумееце, што яны не могуць прынесць патрэбнага рашэння. Патрэбна нармальная дзяржава, адзіная прававая прастора. Давайце возьмем расійскую мадэль, нашу рыначную эканоміку, нашу дэмакратыю, і яны да нас прыходзяць у выглядзе губерняў: дзве беларускія губерні, пяць украінскіх, тры казахстанскія, і так пайшлі паціхеньку ў склад Расійскай Федэрацыі. І яны ўплываюць на выбары прэзідэнта, беларускія парламентары будуць сядзець у Савеце Федэрацыі і прадстаўляць Беларусь – калі ласка, нічога нацыянальнага не ліквідуецца. У беларускіх выбаршчыкаў будуць паўнапраўныя прадстаўнікі».

Магчыма, віцэ-спікер расійскай Дзяржуумы валодае малавядомай інфармацыяй пра планы ці настроі прэзідэнта Лукашэнкі, бо смела абвяргае публічныя прамовы і абяцанні А. Лукашэнкі наконт роўнасці правоў Беларусі і Расіі ў новым саюзе: «Гэта Лукашэнка, можа, проста сёння не да канца гаворыць, але ён згодны будзе, я вас запэўніваю, на формулу простага ўваходжання Мінскай і Магілёўскай губерняў у склад Расійскай Федэрацыі, а яму дадуць пасаду першага віцэ-прэм'ера расійскага ўраду – вось замест Мацвіенкі. І ўсё будзе нармальна».

На жаль, Лукашэнка не адказаў на гэтыя словы расійскага віцэ-спікера, які раней ставіўся да палітычнай вагі беларускага прэзідэнта з большай пашанаю. У пэўным сэнсе такія не надта паважлівыя характарыстыкі прымушаюць думаць, што Жырыноўскі «здае» свайго мядзьведзягя аўтарытэта. Як не ўзгадаць тут знакамітыя словы Цэзара, адрасаваныя сваім забойцам.

**Віктар ЛАГОЙКА**

# Нагадалі пра грахі

## Барадзін пакрыўдзіў беларускі твор, і ў яго адразу пацікавіліся пра лёс грошай

**Пал Палыч заўжды вызначаўся зайздроснай рэакцыяй. Яшчэ нядаўна Барадзін усіх пераконваў, што Канстытуцыйны акт Саюзу, у якім ён за генеральнага сакратара, будзе прыняты ў найбліжэйшы час. Але варта было прэзідэнту Пуціну рэзка раскрытыкаваць прапанаваны варыянт гэтага дакументу, як генсек адразу ж падаў голас і абазваў праект дакумента «лухтой і белібердой». Праўда, агаварыўся, што брат Лукашэнка не вінаваты, яго, маўляў, «чарговым разам падставіла атачэнне». То бок мінскія распрацоўшчыкі названага акту.**



*П. Барадзіну: «Куды падзеліся некалькі соцень тысяч саюзных грошай?»*

У Мінску, вядома, смяротна пакрыўдзіліся. У панядзелак кіраўнік камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы верхняй палаты беларускага парламенту Мікалай Чаргінец заявіў: *«Гэтае выказванне з'яўляецца не проста сігналам, а нагодаю для кіраўніцтва дзвюх краін хутчэй разабрацца, ці сваё месца займае гэты чыноўнік».* І дадаў: *«Барадзіну пара зразумець, што ён знаходзіцца на пасадзе, дзе кожнае слова павінна быць узважана, і атрымлівае зарплату з казны дзвюх дзяржаваў».*

У сілу займанае пасады былы вязень амерыканскіх і швейцарскіх засценкаў атрымлівае з расійска-беларускіх крыніц не толькі зарплату, але і сякія-такія іншыя сродкі. Таму спадар Чаргінец, накшталт жэнеўскага пракурора Бертосы, *«хацеў бы задаць пытанне»*, якія, паводле выразу сенатара, *«боўталіся па камерцыйных структурах»*. Паводле ягоных словаў, мінскіх парламентарыяў *«бянтэжыць кадравая палітыка Барадзіна, а таксама той факт, што большая частка апарату, атрымліваючы грошы з бюджэту Саюзу, працуе асабіста на яго»*. То бок асабіста на Пал Палыча.

Тут ужо давялося рэагаваць процілегламу боку. Прэс-сакратар Барадзіна Іван Макушок назваў выказванні М. Чаргінца паклёпам: *«Застаецца выказаць смутак з прычыны таго, што беларускі палітык высокага ўзроўню скочваецца да звычайнага паклёпу на адрас дзяржсакратара Саюзнай дзяржавы. Заявы М. Чаргінца нічым не пацверджаны і выстаўляюць яго ў кепскім святле».*

Але ў Мінску не суцімаюцца. Да Мікалая Чаргінца далучыўся намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Леанід Козік, афіцыйны куратар пытанняў развіцця беларуска-расійскага Саюзу ў апараце Аляксандра Лукашэнкі. Ён, праўда, грашыма не цікавіўся, але заявіў, што генеральны сакратар *«не разумее простых рэчаў: любая Канстытуцыя, у тым ліку і меркаваны да прыняцця Канстытуцыйны акт, заўсёды знаходзіцца па-над любым іншым законам, што прымае парламент. Якраз таму ў кожнай краіне Канстытуцыю называюць Асноўным законам».*

А старшыня камісіі па інфармацыйнай палітыцы Парламенцкага сходу Саюзу, дэпутат беларускага парламенту Наталля Машэрава назвала ўсю гэтую непрыгожую гісторыю *«дакументальным непаразуменнем»*. На яе думку, прэзідэнты Беларусі і Расіі ў найбліжэйшы час павінны сустрэцца і вызначыцца: *«чаго ж насамрэч хочуць абедзве краіны ад стварэння Саюзнай дзяржавы?»*.

Магчыма, спадарыня Машэрава і мае рацыю ў сваім пажаданні. Але тады няясна другое. Пуцін з Лукашэнкам сустракаюцца ці не кожны месяц, а то і часцей, абмяркоўваюць розныя інтэграцыйныя пытанні. Як жа яны гэта робяць, калі дагэтуль не высветлілі, *«чаго хочуць ад стварэння»* Саюзу? Як можна будаваць дом, калі невядома – жылы ён будзе ці пад офісы, з адным пад'ездам ці з двума, хто ўрэшце павінен аплаціць будаўніцтва і ўвогуле, ці на тым месцы будуем?

Праўда, якраз з прычыны няпэўнасці будаўнічага праекту і туманнасці ягонага каштарысу Пал Палыч Барадзін можа аказацца незаменным прарабам. У гэтай справе ён мае вялізны досвед. Можна сказаць, міжнародны.

**Уладзіслаў СТАРЧЭЎСКІ**
**Vesti. ru**

# Чаму не ловіцца жар-птушка?

**13 чэрвеня кіраўнікі ўрадаў Беларусі і Украіны Генадзь Навіцкі і Анатоль Кінах, сустрэўшыся ў Гомелі, так і не падпісалі пагадненне пра гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва і ўрэгуляванне фінансавых адносінаў.**

Украінскі прэм'ер-міністр Кінах, як толькі пераступіў парог Гомельскага грамадска-культурнага цэнтру, дзе адбывалася сустрэча, сваю павагу да гаспадароў выказаў прывітаннем: «Добры дзень!» Аднак, як высвілася, за знешняй ветлівасцю высокага ўкраінскага госця хавалася надзвычай цвёрдая пазіцыя.

Калі Генадзь Навіцкі ў кароткім уступе вызначыў пытанні для абмеркавання – узаемны гандаль, транспарціроўка калійных угнаенняў рэкамі Прыпяць і Днепр у марскі порт Нікалаеў, стварэнне сумесных прадпрыемстваў па выпуску сельгасмашын, украінскі доўг Беларусі, Анатоль Кінах у слове ў адказ хутка паставіў усе гэтыя праблемы ў еўрапейскі кантэкст.

Сапраўды, наладжваць узаемавыгадны гандаль яшчэ як неабходна. Межы Еўрасаюзу няўхільна рухаюцца на ўсход, і хутка абедзве краіны адчуюць націск ягоных тавараў.

У Беларусі з Украінай сумесная мяжа складае амаль тысячу кіламетраў, а ўзаемны гандаль скарачаецца. Некалькі лічбаў у пацвярджэнне. Яшчэ не так даўно таваразварот паміж нашымі краінамі складаў 1,3 мільярда даляраў у год. Летась ён знізіўся да 700 млн. даляраў.

Сёлета за 4 месяцы таваразварот склаў усяго 88,9 млн. даляраў, альбо на 65,5 млн. меней, чымсьці за такі ж леташні перыяд.

Украінскі прэм'ер сцвярджаў, што ягоная дзяржава свой экспарт у Беларусь сёлета крыху падвысіла. Наша краіна, наадварот, значна зменшыла.

Раней вялікі аб'ём таваразвароту грунтаваўся на гандлі цукрам і нафтапрадуктамі. Апошнім часам Украіна амаль адмовілася ад куплі нафтапрадуктаў Мазырскага НПЗ. Яна завяршыла прыватызацыю сваіх нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў з прыцягненнем інвестараў, якія маюць сыравіну. Такія партнёры знайшліся ў Расіі і Сярэдняй Азіі. Перапрацоўваюць тую ж нафту на сваіх перагонных заводах, Украіна амаль цалкам забяспечвае сябе палівам. Аднак гэта не азначае, што страчаныя аб'ёмы нельга папоўніць, гандлюючы іншымі таварамі.

Украінскім земляробам, напрыклад, патрэбна кормаўборачная тэхніка «Гомсельмаша». Пры гэтым куплюць камбайны яны жадаюць з выкарыстаннем дзяржаўнай падтрымкі, якая заканадаўствам устаноўлена толькі для тэхнікі, што вырабляецца на ўкраінскіх заводах. Таму і прапануецца ствараць на тэрыторыі Украіны сумесныя прадпрыемствы. Гэта дазволіць украінцам, не ўступаючы ў супярэчнасць з нацыянальным заканадаўствам, карыстацца дзяржаўнай падтрымкай пры набыцці і гомельскіх камбайнаў, і мінскіх трактароў.

Як можна было зразумець, узаемны гандаль зрабіць больш аптымальным перашкаджае доўг Украіны нашай дзяржаве. Беларусь настойвае на тым, што памер доўгу складае, прынамсі, 113 мільёнаў даляраў. З гэтай прычыны Беларусь і не ратыфікуе дамову пра беларуска-ўкраінскую мяжу.

Украіна, наколькі вядома, пагаджаецца на суму ў 51 мільён даляраў. Да таго ж прэм'ер-міністр Анатоль Кінах ужывае словаспалучэнне «так званы доўг».

Не азначаны гэты доўг як знешні і ў спецыяльным пагадненні, якое падпісала летась Украіна з Парыжскім Клубам крэдытораў. Па словах Анатоля Кінаха, вінны беларусам канкрэтныя суб'екты гаспадарання, і прэм'ер гатовы ствараць спрыяльныя гандлёва-эканамічныя стасункі, развіваць сумесныя прадпрыемствы і такім чынам атрымліваць выгаду.

Нягледзячы на адсутнасць выніковых дакументаў, прэм'еры заяўлялі, што яны значна наблізіліся да падпісання.

Генадзь Навіцкі наогул выказаўся афарыстычна, праўда, без асаблівага натхнення: «Мы ўжо амаль трымаем жар-птушку ў руках. Трэба яшчэ толькі невялікае намаганне». Пад жар-птушкай, відаць, мелася на ўвазе сума доўгу, на які пагодзіцца Украіна.

Інакш кажучы, прэм'еры не выканалі наказу прэзідэнтаў Леаніда Кучмы і Аляксандра Лукашэнкі. Падчас надзвычай сустрэчы ў Чарнігаве яны абавязвалі Навіцкага і Кінаха падпісаць пагадненне да сярэдзіны чэрвеня.

З другога боку, самі кіраўнікі дзяржаваў сустракаліся за апошнія шэсць гадоў паўтара дзесятка разоў – і таксама не спаймалі жар-птушку, пра якую шчыра мроіў беларускі прэм'ер.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Шведскія сябры

***На мінулым тыдні Беларусь наведалі прадстаўнікі міжнародных праваабарончых арганізацый. Ад Стакгольму да Мінску ўсяго толькі паўтары гадзіны самалётам; «гэта бліжэй, чым ад поўдня да поўначы Швецыі», – кажуць госці.***

У час, калі замежнікі, а тым больш праваабаронцы – не самыя чаканыя госці ў Беларусі, цікава даведацца пра іх уражанні ад нашай краіны.

**Гуміла ДАВІДСОН, Svenska Freds, Стакгольм**

*– Я ведаю, што ваш асноўны партнёр у Беларусі – праваабарончы цэнтр «Вясна». Раскажы падрабязней пра вашае супрацоўніцтва.*

– Нашая супольная праца доўжыцца ўжо каля чатырох год. Кожны год мы рэалізуем праграму абмену – адзін тыдзень нашыя партнёры з Беларусі наведваюць Швецыю, і на адзін тыдзень мы прыязджаем сюды ў Беларусь – праводзім семінары і знаёмімся.

*– Галоўны аспект вашага супрацоўніцтва з беларускімі партнёрамі – гэта праблема правоў чалавека?*

– Самае галоўнае для нас – гэта развіццё дэмакратыі. Для *Svenska Freds* і Швецыі як дзяржавы гэта вельмі істотна. Мы не ставім сабе на мэце, каб у вас было ўсё, як у Швецыі, але, прынамсі, згодна з дэмакратычнымі стандартамі. І калі мы можам вам дапамагчы як арганізацыя ці як прыватныя асобы, для нас гэта істотна.

*– Ты ўжо не першы раз прыязджаеш у нашую краіну. Ці было нешта асаблівае гэтым разам, што табе больш спадабалася?*

– Сёлета мы, акрамя працоўных сустрэч, наведалі Мір і Нясвіж. Мне там вельмі спадабалася. Пра замак у Міры я б сказала, што ён падобны да замка Орэбру ў Швецыі. Гэта вельмі цікава. І я вельмі рада бачыць, што вы ў Беларусі аднаўляеце вашую гісторыю, рэстаўруеце помнікі. Беларуская прырода крыху падобная да шведскае, акрамя мора, вядома. Але ў вас шмат лесу, як і ў нас.

**Шанці ВІТМАР, Svenska Freds, Стакгольм**

*– Думаю, што ў свеце няшмат арганізацыяў, якія за сваю дзейнасць атрымалі дзве прэміі Нобеля. За што Svenska Freds мае гэтыя ўзнагароды?*

– *Svenska Freds* была заснаваная ў 19 ст. Ініцыятарамі стварэння арганізацыі была група парламентарыяў. Галоўным пытаннем тады была рызыка вайны з Нарвегіяй, якая імкнулася да самастойнасці. Шмат хто ў Швецыі, асабліва ваенныя начальнікі, хацелі ваяваць. І як арганізацыя *Svenska Freds* паўстала, каб спыніць, супрацьстаяць гэтым настроям у грамадстве. Гэтая мэта была дасягнутая. У 1905 г. Нарвегія стала свабоднай краінай, і вайны не было. Вось за гэта нашая арганізацыя пазней і атрымала Нобелеўскую прэмію. Арганізацыя стала шырэйшаю і ахапіла болей людзей.

Другую ўзнагароду мы атрымалі за ўдзел у кампаніі супраць ужывання супрацьпяхотных мінаў.

*– Якая мэта дзейнасці арганізацыі зараз?*

– Зараз мы рэалізуем некалькі асноўных праектаў. Тое, за што ў Швецыі ведаюць нас – гэта перадусім дзейнасць супраць гандлю зброяй і яе экспарту. У нас было некалькі паспяховых кампаній у гэтым кірунку. Асноўны акцэнт мы робім на супрацьстаянні экспарту ў недэмакратычныя краіны. Напрыклад, у Швецыі ёсць закон, што нельга экспартаваць зброю ў краіну, якая знаходзіцца ў стане вайны. Але, тым не менш, Швецыя экспартуе зброю ў Індыю. І мы спрабуем гэта прадухіліць.



*– Як табе спадабалася ў Беларусі? Я ведаю, што ты сюды прыехала ўпершыню.*

– Вельмі спадабалася.

*– А што асабліва?*

– У асноўным тое, што людзі вельмі добрыя, уражвае, як маладыя цікавяцца развіццём сваёй краіны і які высокі ўзровень адукацыі ў многіх студэнтаў і школьнікаў, як мне падалося. З некаторымі школьнікамі мы сустракаліся ў Магілёве. Яны шмат ведаюць пра гісторыю, праблемы дэмакратыі – гэта сапраўды ўражвае. Калі параўноўваць, то можна сказаць, што шведы больш стрыманыя, больш неахайна апранутыя, мы не аддаём гэтаму такой увагі, як вы.

З прафесійнага пункту гледжання хацелася б адзначыць, што ў Мінску мы больш сустракаліся з прафесіяналамі, а ў Магілёве, напрыклад, было больш тых, хто проста цікавіцца працай у грамадскіх арганізацыях – аматараў альбо валанцёраў. Але было некалькі чалавек, сапраўды дасведчаных у гэтых пытаннях.

**Анна ЛІНДБЕРГ, Svenska Freds, Упсала**

*– Ці ведаюць у Упсале пра Беларусь?*

– Гледзячы ў каго запытацца. Людзі ўвогуле вельмі моцна звязваюць Беларусь з Расіяй. Яны ведаюць, што гэта не частка Расіі, але ўсё ж такі гэта падаецца ім вельмі звязаным. Калі я сказала, што я еду ў Беларусь, мае сябры пыталіся ў мяне, «колькі гадзін гэта на самалёце? Напэўна, пяць ці шэсць?». І калі я адказвала «не, толькі паўтары гадзіны», яны вельмі дзівіліся, бо пераважнае ўражанне такое, што Беларусь – гэта вельмі далёка ад Швецыі.

*– Якія канкрэтныя крокі ты плануеш зрабіць у Швецыі пасля візіту ў нашую краіну?*

– Мы ўжо плануем шэраг семінараў пра Беларусь увосень, і спадзяёмся, што мы зможам супрацоўнічаць з філіяй "Вясны" ў Магілёве.

*– А вы больш зацікаўленыя ў кантактах з беларускімі рэгіёнамі?*

– Так, бо нам здаецца, што наша цэнтральная арганізацыя ў Стакгольме мае кантакты наўпрост з арганізацыяй у Мінску. І таму для нас, як для мясцовай філіі ў Упсале, цікавей мець кантакты з вашымі рэгіёнамі.

*– Хто ты па прафесіі?*

– Малекулярны біёлаг. Гэта мая асноўная праца, якая не мае ніякіх сувязяў з працай у *Svenska Freds*. І якраз таму гэта так здорава. Разнастайнасць. У *Svenska Freds* я працую ў вольны час з задавальненнем.

**Марыя ЛОНЕ, Amnesty International («Міжнародная амністыя»), Стакгольм**

*– Я ведаю, што асноўны кірунак дзейнасці вашай арганізацыі – абарона правоў чалавека. У Беларусі гэта вялікая праблема, але дагэтуль у нас няма прадстаўніцтва «Міжнароднай амністыі». Ці плануеце вы неяк актывізаваць сваю працу з Беларуссю?*

– Так, гэта праўда. Я не ведаю, наколькі магчыма адкрыць філію тут у вас, але мы ставім на мэце адкрыць філіі ўва ўсіх краінах свету. У нас, у Упсале, існуе група, якая працуе менавіта з Беларуссю. Усяго ў Упсале існуе дваццаць груп «Міжнароднай амністыі», і адна з іх займаецца праблемай тых людзей, якія не хочуць служыць у арміі ў Беларусі. У нашую працу звычайна ўваходзіць ліставанне да ўладаў, мы пісалі лісты вашаму прэзідэнту Лукашэнку і некаторым іншым людзям, якія маюць нейкае дачыненне да новага закону пра тых, хто з розных прычынаў адмаўляецца служыць у войску. Я ведаю, што зараз у вас пацыфістаў павыпускалі з турмы, і нашая група ў Швецыі працуе над іншымі пытаннямі. Вядома, нельга сказаць, гэта вынік толькі нашай працы. Але безумоўна, што ў гэтым ёсць і наш унёсак.

*– Ці спадабалася ў Беларусі?*

– У мяне вельмі добрае ўражанне. Але ёсць і сумны момант. Мы ж сустракаліся з многімі арганізацыямі, якія займаюцца такімі самымі пытаннямі, як і мы ў Швецыі, і таму ў нас зараз, магчыма, крыху чорная карціна таго, што адбываецца з правамі чалавека ў Беларусі. Але калі сустракаешся са звычайнымі людзьмі на вуліцы, у мяне ўражанне вельмі добрае.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

*Svenska Freds* утварылася ў 19 стагоддзі і існуе больш за сто гадоў, займаецца праблемамі мірнага вырашэння канфліктаў. Асаблівую ўвагу арганізацыя аддае нестабільным рэгіёнам Еўропы – краінам былой Югаславіі, Расіі і Беларусі. *Svenska Freds* змагаецца за скарачэнне ўзбраенняў і за забарону некаторых відаў зброі – супрацьпяхотных мінаў. Барацьба за мір і правы чалавека – традыцыйная з'ява для Швецыі: вось ужо 180 гадоў гэтая краіна ні з кім не ваюе.

*Amnesty International («Міжнародная амністыя»)*, адна з самых вядомых і ўплывовых у свеце праваабарончых арганізацый, была заснаваная ў 1961 г. брытанскім адвакатам Пітэрам Бенэнсанам. Тады ж для працы ў арганізацыі былі выпрацаваныя прынцыпы бесстароннасці і незалежнасці: сябры «Міжнароднай амністыі» могуць займацца парушэннямі правоў чалавека ў любых краінах свету, акрамя сваіх.

Зараз арганізацыя налічвае больш за 1 000 000 сяброў і фундатараў у больш як 190 краінах.

# Расіянін «Беларусь» угробіў

## *Без выбару пакінулі ўлады берасцейскіх калгаснікаў*

**Толькі з міліцэйскіх пратаколаў пры арышце на мінулым тыдні былога старшыні калгаса «Беларусь» Брэсцкага раёну Спірыдона Падшыбякіна мясцовыя механізатары і даяркі даведаліся, што імі кіраваў грамадзянін Расіі. Чалавек без беларускага пашпарту і паводзіў сябе тут нахабным чужынцам: людзі не атрымлівалі заробленага, а старшыня разбазарваў калектыўную маёмасць.**

Калі б не ўпартасць, з якою цяперашняя ўлада трымаецца да апошняга за калгасы, то сельгасвытворчасць у гэтых аддаленых мясцінах Брэсцкага раёну можна было б выратаваць. Пасёлак Дамачава, дзе і раней быў цэнтр калгасу «Беларусь», налічвае 1 213 чалавек. Людзі тут цягавітыя. Да 1995 году яны мелі цікавасць да працы на зямлі, было шмат ахвотных да фермерства. Аднак хаджэнні па пакутах за ўласнай зямлёю засталіся ў мінулым. Зараз толькі апошнія гультаі ў Дамачаве не зарабляюць грошы больш танным спосабам, чым корпанне ў глебе. Практычна ў кожным з 460 двароў пасёлка ёсць аўтамабіль, а то і два ці тры, і ўвесь гэты аўтапарк рэгулярна курсіруе за кардон. У Дамачаве з 21 студзеня 1995 году функцыянуе пункт мытнага афармлення на беларуска-польскай мяжы. Розніца коштаў на спірт, цыгарэты і салярку дагэтуль дазваляе месячам сумленна зарабляць. Прыкладам, 60 літраў саляркі, купленыя на аўтазапраўцы і вывезеныя ў суседнія Славатычы, абарочваюцца прыбыткам у 8 даляраў. Ну, а калі ў калгасе «Беларусь» плацяць за месяц працы ўсяго па 15 тысяч рублёў на рукі, то хто ж будзе гарбаціцца за такія грошы? Найбольш знакамітаў у пасёлку адмысловец-агароднік Сулейман Сулейманаў, бацька 12 дзяцей, таксама ў сталым веку змяніў прафесію. Каб накарміць сваю вялікую сям'ю, ён таксуе зараз на мікрааўтобусе па маршруце «Дамачава-Брэст–Дамачава». Гробіць «Беларусь» дапамагаюць залётныя. Спірыдону Падшыбякіну гаспадарка набыла «Аўдзі-100» і пабудавала за крэдыты шыкоўны катэдж. Зараз на месца кіраўніка раённае начальства прывезла былога старшыню сельсавету з Іванаўскага раёну Мікалая Сацуту. Сход галасаваў за яго, хоць знаёмства адбылося шапачнае, і ўсе перакананыя, што новаму старшыні давядзецца таксама будаваць дом за калгасныя сродкі...

Звольнілі Падшыбякіна па калектыўнай скарзе ў пракуратуру пра безгаспадарчасць на ферме, машынным двары і бульбасартавальным пункце: каровы стаялі па калена ў вадкім гнаі, трактары патаналі ў гразі, дарагое абсталяванне ржавела пад адкрытым небам. Пры праверцы калгаснай дакументацыі пракурору давялося ўзбуджаць крымінальную справу. Высветлілася, што экс-старшыня меў непасрэдныя адносіны да падробак у справаздачы на гібель жывёлы, да фіктыўных дамоваў на выкананне работ, да выпраўленняў у бухгалтарскіх паперах... У жніўні мінулага году ў калгасе нібыта атруціліся каровы і цялята на суму ў 2,5 мільёны рублёў. У мінулым красавіку – на 4 мільёны. А людзі кажуць, што не было гібелі жывёлы! У калгасе спісвалі на падзеж мяса, якім старшыня забяспечваў сябе і «патрэбных» людзей. За перыяд з траўня 2001 году па сакавік 2002 году прамыя крадзяжы, якія ставяцца ў віну С.Падшыбякіну, склалі 4 мільёны 87 тысяч рублёў. Калі ж улічваць ускосныя страты ад няўдалага кіраўніцтва расіяніна ў Беларусі, то яны вымяраюцца значна большымі сумамі.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Наркотыкі: злачынны бізнес

Аксана ЯНОЎСКАЯ

***Рост злачыннасці ў сталіцы адбываецца галоўным чынам «па лініі наркотыкаў». Гэта – тэма гутаркі карэспандэнткі НАШАЙ СВАБОДЫ з начальнікам упраўлення нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў ГУУС Мінгарвыканкаму палкоўнікам міліцыі Рамуальдам Андрыеўскім.***

*– На апошнім брыфінгу вы прасілі журналістаў меней пісаць пра статыстыку, а болей пра зламаныя лёсы наркаманаў і іх блізкіх. Але, згодна з статыстыкай, колькасць злачынстваў прыкметна расце толькі па вашай лініі. Можа, таму вы просіце не надта адаваць ёй увагу?*

– Рост статыстыкі наўпрост залежыць ад таго, колькі наркагандляроў мы затрымліваем. Гэта магчыма толькі з доказамі злачынства на руках, іначай няма сэнсу. І калі канфіскаваны хоць адзін грам гераіну, гэта значыць: 10 чалавек не змогуць яго паспытаць упершыню. Наша галоўная задача – перакрываць каналы збыту наркотыкаў. З пачатку гэтага году мінскай міліцыяй канфіскавана амаль 5 кілаграмаў гераіну, 6 грамаў метадону, 100 грамаў эфедрыну і 4 кілаграмы наркатычнай сыравіны. Сёлета ў параўнанні з мінулым годам аб'ём канфіскаванага вырас у 4 разы. І ў гэтым сэнсе статыстыка на нашу карысць.

*– Гэта значыць, што вашы падначаленыя сталі лепей працаваць ці павялічваецца ўвоз наркотыкаў у нашу краіну?*

– Хутчэй за ўсё, абедзве прычыны. Начальнік крымінальнай міліцыі краіны Барыс Тарлецкі і начальнік ГУУС Мінгарвыканкаму Аляксандр Рак дамагліся пашырэння штатаў супрацоўнікаў галоўнага ўпраўлення і раённых аддзелаў нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў. Колькасць наркотыкаў, што да нас вязуць, сапраўды павялічваецца, таму трэба змагацца з гэтым не толькі ўмельствам, але і колькасцю.

*– Адкуль у нашу краіну вязуць наркотыкі? І хто гэтым больш займаецца?*

– Наркотыкі вязуць амаль з усяго свету. І калі яшчэ ў часы СССР тэрыторыя нашай краіны выкарыстоўвалася як транзітны калідор, то цяпер наркамафія хоча пасадзіць Беларусь на іглу. Сведчанне таму – няспыннае зніжэнне цэн на гераін. У 1999 годзе ён каштаваў 120 даляраў за грам, цяпер – 30. Нават элітны наркотык какаін і той патаннеў на 20–30 даляраў. Па нацыянальнай прыкмеце сярод наркагандляроў лідзіруюць цыганы: да гэтай этнічнай групы належыць кожны дзесяты. З пачатку году іх затрымана 23 асобы. Выхадцаў з Сярэдняй Азіі і Казахстану – 26, з Грузіі – адзін, двое – з Чачні. Падобна, што апошнія сябе яшчэ зарэкамендуюць на гэтым злачынным рынку. Непакоіць і тое, што сярод наркагандляроў усё часцей з'яўляюцца беларусы.

*– У згаданыя вамі савецкія часы наркотыкі былі прывілеем «залатой моладзі» і асобнай касты злачынцаў. Цяпер гераін даступны і «пэтэвушніку», а скарыстаць падручныя расліны – мак, скажам, ці прыгатаваць наркотык з салутану – зусім не праблема. Калі наркотыкі сталі агульнадаступнымі?*

– На тэрыторыі былога СССР наркотыкі пачалі шырока распаўсюджвацца напрыканцы 80-х. У нашай краіне наркатычны бум прыпаў на пачатак – сярэдзіну 90-х гадоў.

*– Рамуальд Станіслававіч, нашы суайчыннікі-наркагандляры: хто яны?*

– Іх можна падзяліць на дзве групы. Першая і даволі распаўсюджаная – самі наркаманы: яны займаюцца збытам, каб зарабіць сабе на дозу. Тут ёсць вялікая небяспека. Наркаман звычайна пачынае сябраваць з раўналеткам з забяспечанай сям'і і садзіць яго «на іглу». Новы «сябра» дае грошы на дзве дозы, бо наркаман са стажам ніколі не будзе знаёміць навічка з наркагандляром. Прынамсі, пакуль у таго ёсць грошы. Потым яны ўжо разам могуць знайсці новую ахвяру «сяброўства». А другая, менш распаўсюджаная катэгорыя наркагандляроў-беларусаў – тыя, хто свядома на гэтым зарабляе грошы. Самі яны, як і цыганы, наркотыкі не ўжываюць, бо добра ведаюць, чым гэта скончыцца.

*– Так, фінал вядомы: мала хто з наркаманаў дажыў да 30 год. Не можа не трывожыць той факт, што сярэдні ўзрост наркамана набліжаецца да 18 год. У чым вы бачыце прычыну гэтай з'явы?*

– Наркаманія – гэта хвароба, якая мае два складнікі: псіхалагічны і фізічны. І калі апошні можна знізіць пасля некалькіх курсаў лячэння нават у нашых умовах, то з псіхалагічных праблем усё і пачынаецца. Падлеткі спрабуюць наркотык таму, што ў іхнім узросце натуральна цікавіцца ўсім новым, нязведаным. Трэба разумець, што ў падлетка яшчэ няўстойлівая псіхіка, і ён лёгка паддаецца ўплыву, ён хоча быць да некага падобным. Тут я мушу ўзгадаць і рэкламу тытуню, і алкаголю, а таксама тое, што наркаман ужо герой кінастужак. Зразумела, каму гэта выгадна. У такім інфармацыйным асяроддзі вельмі важна, як складаюцца адносіны паміж бацькамі і дзецьмі. Калі яны добрыя, даверлівыя і дзіцяці растлумачаць, у чым пагроза наркаманіі, дзіця ўсё зразумее. Калі ж бацькоў не цікавяць іх дзеці ці яны бачаць сваю ролю толькі ў тым, каб забяспечваць дзяцей грашыма, то дзеці абавязкова пойдуць шукаць нейкіх прыгодаў. І тады даволі часта падлеткі становяцца спажыўцамі наркотыкаў ці алкаголю.

*– Так усё проста...*

– Гэта не значыць, што такой заявай мы здымаем з сябе адказнасць. Так, мы вінаватыя ў тым, што не можам затрымаць усіх наркагандляроў. Але гэта немагчыма нідзе ў свеце. Ніхто з іх добраахвотна не развітаецца з гэтым бізнесам, бо рознічны кошт грама гераіну больш чым у 1 500 разоў перавышае сабекошт. Ідэальная сітуацыя, калі на наркотыкі няма попыту ці калі няма прапановы. Неяк уздзейнічаць на апошняе мы і стараемся.

*– Ці ёсць у Мінску заведама небяспечныя месцы, у прыватнасці – клубы, дыскатэкі, дзе наркотыкі даступныя для ўсіх ахвотных?*

– Заведама небяспечнымі можна назваць месцы кампактнага пражывання цыганоў. Што да начных клубаў і дыскатэк, то яны заўсёды былі ў полі нашага зроку. А з пачатку гэтага году ў кожным раённым упраўленні ўнутраных справаў адзін супрацоўнік аддзелу нораваў і незаконнага абароту наркотыкаў стала працуе па сваёй лініі толькі ў забаўляльных установах. Па гэтых установах кожны месяц праводзяцца рэйды. Нядаўна нашы супрацоўнікі затрымалі афіцыянта начнога бара, які прытаргоўваў наркотыкамі. Зараз па гэтай справе вядзецца следства. З пачатку году ліквідавана амаль 30 «гандлёвых пунктаў» па продажы наркотыкаў. Звычайна гэта дамы цыганоў у прыватным сектары, яшчэ апошнім часам яны часта арандуюць кватэры на тыдзень, а то і на суткі. Увогуле, месца жыхарства для іх не важна пры цяперашніх сродках сувязі. Пейджэр і мабільнік – галоўныя памагатыя ў наркагандляроў. Таму ў пэўным сэнсе мы не можам казаць пра стацыянарныя гандлёвыя пункты.

*– Рамуальд Станіслававіч, вядома, што наркаманы значна павялічваюць агульнакрымінальную злачыннасць. Іх «фірмовыя» злачынствы – рабункі, крадзяжы і разбоі, у тым ліку кватэрныя. «Кідалы» каля пунктаў абмену валют – таксама наркаманы. Хоць яны і хворыя людзі, але небяспека ад іх відавочная.*

– У нас у краіне, на жаль, няма добрай сістэмы рэабілітацыі наркаманаў. Міліцыя не павінна падмяняць сабой гэтую сістэму. Бо што атрымліваецца? Наркаман учыніў злачынства – яго затрымалі, асудзілі і адправілі ў папраўчую калонію. Як той казаў: як з вачэй, то і з думкі... Але праблема наркаманіі існуе ва ўсім свеце. І там робяць захады, каб паменшыць шкоду ад яе. У нашых бліжэйшых суседзяў, у Польшчы, дзейнічае «метадонавая праграма». Сутнасць яе ў тым, што наркаман бясплатна атрымлівае метадонавы кактэйль. Гэта падтрымлівае яго ў нармальным (для яго) фізічным і псіхічным стане. Не трэба думаць, дзе ўзяць грошы на дозу – ён не пойдзе красці. Там жа працуюць перасоўныя пункты абмену шпрыцаў, каб наркаманы не зараzіліся СНІДам. Там навучыліся лічыць грошы: што для дзяржавы танней – раздаць шпрыцы ці лячыць ВІЧ-інфекцыю. І галоўнае, людзі там больш цярпімыя і неабыякавыя да чужога гора.

### Наркаманы (прыкметы)

**Эфедрын** – шпрыц з празрыстай вадкасцю, захоўваецца ў маразільным аддзяленні лядоўні.

**Прыкметы:** Шмат слядоў ад уколаў. Пашыраныя зрэнкі не рэагуюць на святло. Дзейнічае як допінг на працягу 12 гадзін: на дыскатэцы скачуць як заведзеныя. Павялічваецца творчы патэнцыял: могуць некалькі гадзін маляваць, складаць вершы і інш. Нярэдка адсутнічаюць дома па 2–3 дні. Вяртаюцца бледныя, з пачуццём моцнага апетыту і жаданнем доўга спаць.

**Гераін** – парашок ад шэрага да карычневага колеру. Ужываецца шляхам ін'екцый.

**Прыкметы:** Сляды ад ін'екцый могуць адсутнічаць – іх робяць паміж пальцаў, пад язык, інсулінавымі іголкамі. Зрэнкі звужаны, назіраецца затарможаная рэакцыя, неадэкватныя паводзіны. Чалавек падобны да п'янага, але без паху алкаголю. Наркаманы з стажам маюць змарнелы выгляд, зямлістае адценне твару. У падлеткаў назіраецца рэзкае пагаршэнне вучобы, замкнёнасць, узмоцненая раздражняльнасць.



Фота В. Шлапака

## КРЫМІНАЛ

### Штраф за вахту ў Курапатах

17 чэрвеня ў судзе Мінскага раёну завяршыўся разгляд адміністрацыйнай справы Васіля Парфянкова – аднаго з удзельнікаў акцыі ў абарону ўрочышча Курапаты.

Суддзя прызнаў Парфянкова вінаватым ва ўчыненні дробнага хуліганства і пастанавіў аштрафаваць яго на 20 тысяч рублёў – дзве базавыя велічыні. Справа разглядалася два месяцы. Васіль Парфянкоў і Алесь Поклад былі прыцягнуты да суду. Грамадзянін Расіі Антон Шкурынскі, у якога не было пры сабе пашпарту падчас затрымання супрацоўнікамі міліцыі, быў дастаўлены ў спецпрыёмнік-размеркавальнік. Там ён правёў 28 сутак. Чацвёртай затрыманай 16 красавіка была непаўналетняя Марыя Канталтайтэ, якую накіравалі ў дзіцячы дом, бо яна – сірата. Суд над Алесем Покладам, хутчэй за ўсё, ужо не адбудзецца. 19 красавіка ён сур'ёзна пацярпеў пры пажары ў палатцы валанцёраў і дагэтуль знаходзіцца ў Рэспубліканскім апёкавым цэнтры.

Васіль Парфянкоў сваёй віны катэгарычна не прызнаў.

### За фальшывыя грошы ў сапраўдную турму

У сярэдзіне лютага ў цягніку «Масква–Варшава» падчас мытнага дагляду ў Брэсце ў жыхара Віцебску С. Яленскага мытнікі знайшлі пісталет ТТ з абоймай, а таксама 109 тысяч 700 нямецкіх марак, якія былі фальшывыя, як і задэклараваныя ім 1 500 DM. Яленскага затрымалі, па факце ўзбудзілі крымінальную справу. Следства вялі супрацоўнікі УКДБ па Брэсцкай вобласці. Суд Ленінскага раёну Брэста прыгаварыў Сяргея Яленскага да шасці гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі строгага рэжыму.

### Прысуд А. Чыгіру пакінуты ў сіле

18 чэрвеня калегія Мінскага гарадскога суду пад старшынствам Мікалая Самасейкі разгледзела касацыйную скаргу на прыгавор суду Ленінскага раёну горада Мінска ў дачыненні да Аляксандра Чыгіра, Дзмітрыя Юцкевіча і Антона Яшына і пакінула прысуд без зменаў.

Аляксандр Чыгір асуджаны да сямі гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі строгага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці. Антон Яшын асуджаны да 7 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем у калоніі строгага рэжыму і з канфіскацыяй маёмасці. Дзмітрый Юцкевіч як злосны рэцыдывіст асуджаны да пазбаўлення волі на тэрмін 11 гадоў 6 месяцаў з адбыццём пакарання ў калоніі асобага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці.

На думку адвакатаў, падчас судовага следства высветлілася, што доказы, прадстаўленыя папярэднім следствам, недакладныя. Адвакаты маюць намер абскардзіць прысуд у парадку нагляду ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.

## понедельник 24 июня

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.25** Новости.
**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь! Передача из Гомеля.
**09.15, 17.00** «Сыщики». Сериал.
**10.05** Арсенал. Программа об армии.
**10.45** Телебарометр. Прогноз погоды.
**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.
**12.20** «Славянский базар в Витебске-2001». Избранное.
**13.05** Н.Андрейченко и В.Соломин в кинопоэме **«СИБИРИАДА»** («Мосфильм»). 1-я серия.
**14.15** Телевизионный Дом кино. Художник кино Александр Верещагин.
**14.45** Слово Митрополита Филарета ко Дню Святой Троицы (Пятидесятницы) и Дню Святого Духа.
**15.20** Худ. фильм для детей **«ГОЛЛИВУДСКОЕ САФАРИ»** (США).
**16.45** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Синеглазка».
**18.25** Зона Икс.
**18.35** Мелодрама **«ДЕВУШКА НА МОСТУ»** (Франция).
История молодой девушки и метателя ножей, которые путешествуют по разным городам в поисках удачи.
Режиссер: Патрис Леконт.
В ролях: Ванесса Паради, Даниэль Отей.
**20.05** Главный вопрос.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**22.45** Стадион. Футбол.
**23.40** Детективный сериал «Гражданин начальник».

### ОРТ

**16.00** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**17.25** Жди меня.
**18.20** Георгий Вицин в комедии **«ОПЕКУН»**.
**20.00** Время.
**20.35** «Слабое звено». Игровое шоу.
**21.25** Независимое расследование.
**22.00** Комедийный сериал «Китайский городовой».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Дневник Московского кинофестиваля.
**23.40** Эрик Робертс в боевике **«16-Й ОТДЕЛ»**.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**08.10** Вести недели.
**09.05** Ток-шоу Марии Ароновой «Рядом с тобой».
**10.20** Кино-истории Глеба Скороходова.
**10.30** Т.Доронина, Н.Федосова и Л.Неведомский в фильме **«МАЧЕХА»**. 1973 г.
**16.20** «Союз бывших». Док. фильм Алексея Денисова «Узбекистан».
**17.05** Вести - Москва.
**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** И.Ботвин, Т.Бибич и М.Наруцкая в сериале «Агентство НЛС».
**20.55** Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ПРИКЛЮЧЕНИЕ С ДЕШЕВОЙ КВАРТИРОЙ»** (Великобритания). 1990 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** «Дежурный по стране». Михаил Жванецкий.
**23.20** Последний сеанс. К юбилею режиссера Карена Шахназарова. Л.Филатов, О.Басилашвили, В.Меньшов и Е.Евстигнеев в фильме **«ГОРОД ЗЕРО»**. 1988 г.
**01.25** Дежурная часть.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** Сериал «Идеальная пара».
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Намедни» с Леонидом Парфеновым.
**10.35** Куклы.
**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.
**11.35** В.Соломин и В.Ливанов в детективе **«ШЕРЛОК ХОЛМС И ДОКТОР ВАТСОН»**.
**13.05** «Страхи». Ток-шоу «Принцип «Домино».
**15.30** Г.Жженов, А.Кузнецов и Н.Еременко-мл. в фильме **«ГОРЯЧИЙ СНЕГ»**.
**18.00, 21.00** «Сегодня» с Петром Марченко.
**18.30** Сериал «Улицы разбитых фонарей». 3-я серия. «Напиток для настоящих мужчин».
**19.40** Сериал «След оборотня». 1-я серия.
**21.35** Герой дня.
**21.55** «Скорая помощь-3». Сериал (США).
**23.20** Сериал «Улицы разбитых фонарей».

### КУЛЬТУРА

**09.15** Магия кино.
**09.40, 16.35** «Очарованные законом». Док. сериал. Режиссер С.Тыркин.
**10.20** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.
**10.45** Тем временем.
**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.
**11.40** «Приключения Болека и Лелека». Мультсериал.
**11.50** Вместе с Фафалей.
**12.05** «Тесные врата». Блаженная Ксения Петербургская.
**12.20** «Путешествие во времени». М.Горький. «Дачники». Авторская программа Г.Товстоногова. Запись 1980 года.
**12.55** П.Дюка. «Ученик чародея». Дирижер М.Кац.
**13.15** «Уроки русского». И.А.Бунин. «Темные аллеи». Читает Алла Демидова.
**13.30** «Будденброки». Сериал (Германия, 1979). Режиссер Франц Петер Вирц.
**14.30** Alma Mater.
**15.10** Заключительный гала-концерт XIII Фестиваля детского творчества «Надежда».
**15.50** «Архангельские новеллы». Мультфильм.
**16.05** «Цитаты из жизни». М.С.Каган.
**17.15** «Русские напевы». Мультфильм.
**17.50** «Век Русского музея». Авторская программа В.Гусева.
**18.15** Век полета: виражи и судьбы.
**18.40** Сценограмма.
**19.10** «Рекс». Мультсериал.
**19.30** «Час музыки». К.Аббадо, А.Георгиу, С.Ларин в концертной программе «Итальянская ночь».
**20.30** К 65-летию Альберта Филозова. С.Злотников. «Пришел мужчина к женщине». Спектакль театра «Школа современной пьесы» (1990). Режиссер И.Райхельгауз.
**22.30** «Вокзал мечты». Авторская программа Ю.Башмета.
**23.25** «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультфильм «Том и Джерри».
**17.35** «Простой вопрос».
**17.45** Сериал «Моссад».
**18.30** Сериал «Звездный путь».
**20.40** Телемагазин.
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** «Смертельный риск». «Охота за «Бисмарком».
**21.30** Мелани Гриффит в худ.фильме **«ЖЕНЩИНА БЕЗ ПРАВИЛ»**.



### СТВ

**06.00, 16.45** Минщина. Люди, события, факты.
**06.35, 00.35** «Виртуальный мир».
**06.45, 16.05** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
**07.10** Мультсериалы: «Приключения Папируса», «Вуншпунш», «Инспектор Гаджет».
**08.30** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**08.45** Ричард Хэррис и Шарлотта Рэмплинг в приключенческой драме **«СМЕРТЬ СРЕДИ АЙСБЕРГОВ»**.
**11.00** «168 часов».
**12.00** Новости мировой шоу-индустрии.
**12.30** Канал истории: «Осама бен Ладен - во имя Аллаха». Док. фильм.
**13.30, 16.30, 19.00, 23.55** «24 часа».
**13.45** «Убойная сила». Сериал.
**14.50** Мультсериалы: «Инспектор Гаджет», «Вуншпунш», «Приключения Папируса».
**17.00** «Яго, темная страсть». Теленовелла.
**18.00** «Очевидец».
**18.30** «СТВ-спорт». Телеальманах.
**18.50** «Тема дня».
**19.15** Фестиваль газеты «Минский курьер».
**21.00** Марлон Брандо, Джейн Фонда, Роберт Редфорд в драматическом триллере **«ПОГОНЯ»**.
**00.10** Футбольный курьер.
**00.45** Новости СНГ.
**01.00** Музыка на СТВ.



## вторник 25 июня

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 18.00, 23.35** Новости.
**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!
**09.15, 17.00** «Сыщики». Сериал.
**10.10** «Грозовые камни». Сериал для детей.
**10.35** «Пой, душа!» Фольклорные коллективы Кореличского района.
**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.
**12.20** Добрый день, Беларусь!
**13.05** Кинопоэма **«СИБИРИАДА»** («Мосфильм»). 2-я серия.
**14.20** Футбол. Чемпионат мира. 1/2 финала. Трансляция из Южной Кореи.
**16.30** «Пять чудес».
**16.40** «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**18.25** Зона Икс.
**18.35** «Наше наследие». Дворец Воловичей в Свяцке.
**18.55** **«ВИКТОР ШОЛЬХЕР»**. Худ. фильм (Международный французский канал).
Виктор Шольхер возвращается из Сенегала, как только узнает, что в Париже свергнута монархия. События фильма происходят в марте 1848 года. Шольхер надеется именно сейчас завершить борьбу по уничтожению рабства по всей французской территории, которую он ведет уже 20 лет.
Режиссер: Поль Веккьяль.
В ролях: Жак Перрен.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**22.45** Спорт-курьер. Футбол.
**23.05** Планета АРТ.
**23.55** Детективный сериал «Гражданин начальник».

### ОРТ

Техническая профилактика до 16.00.
**16.30** Смехопанорама Евгения Петросяна.
**17.00** Вечерние новости.
**17.20** «Семейные узы». Сериал.
**18.20** Эрик Робертс в триллере **«ЗОНА ТУРБУЛЕНТНОСТИ»**.
**20.00** Время.
**20.35** ОНТ представляет: «Наши новости».
**21.10** «Народ против». Телеигра.
**22.10** «Кремль - 9».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Дневник Московского кинофестиваля.
**23.40** Боевик **«16-Й ОТДЕЛ»**.
**0.35** «Фирменный рецепт». Сериал.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**08.10** Диалоги о животных.
**09.00** Е.Копелян, П.Вельяминов, И.Лапиков, В.Спиридонов, Т.Семина и А.Роговцева в телесериале «Вечный зов».
**10.20** Фильм **«СВЕРСТНИЦЫ»**. 1969 г.
Три подруги окончили школу. Одна поступила в медицинский институт, другую приняли на актерский факультет театрального училища, а третья пошла работать на часовой завод.
Режиссер: Василий Ордынский.
В ролях: Л.Крылова, Л.Федосеева, М.Кошелева, В.Костин, В.Высоцкий.
**16.20** «Союз бывших». Док. фильм Алексея Денисова «Грузия».
**17.05** Вести - Москва.
**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** И.Ботвин, Т.Бибич и Н.Бурмистрова в сериале «Агентство НЛС».
**20.55** Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ПОХИЩЕНИЕ ПРЕМЬЕР-МИНИСТРА»** (Великобритания). 1990 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** Дневник чемпионата мира по футболу.
**23.05** Бал выпускников.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ. ВМЕСТЕ С БАНДИТАМИ»**. Остросюжетный фильм.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Внимание. Розыск!» «Вологодский удав».
**10.10** «Растительная жизнь» с Павлом Лобковым.
**10.50** Вкусные истории.
**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.
**11.35** Детектив **«ШЕРЛОК ХОЛМС И ДОКТОР ВАТСОН»**. Фильм 2-й. «Кровавая надпись».
**13.05** «Я не верю гороскопам». Ток-шоу «Принцип «Домино».
**15.30** Сериал «След оборотня».
**16.40** Боевик **«ГРЯЗНАЯ РАБОТА»** (США). 21-я серия.
**18.00, 21.00** «Сегодня» с Петром Марченко.
**18.30** Сериал «Улицы разбитых фонарей». 4-я серия. «Моль бледная».
**19.40** Сериал «След оборотня». 2-я серия.
**21.35** Герой дня.
**21.55** «Скорая помощь-3». Сериал (США).
**23.20** Сериал «Улицы разбитых фонарей».
**00.15** «О, счастливчик!» Азартная игра.

### КУЛЬТУРА

**09.15** Графоман.
**09.40, 16.35** «Очарованные законом». Док. сериал. Режиссер С.Тыркин.
**10.35** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.
**10.50** «Сферы» с Иннокентием Ивановым.
**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.
**11.40** «Приключения Болека и Лелека». Мультсериал.
**11.50** Вместе с Фафалей.
**12.20** «Линия жизни». Даниил Гранин.
**13.15** «Уроки русского». И.А.Бунин. «Темные аллеи». Читает Алла Демидова.
**13.30** «Будденброки». Сериал (Германия, 1979). Режиссер Франц Петер Вирц. 11-я серия, заключительная.
**14.30** Ток-шоу «Наобум». Александр Белявский.
**15.10** Кино - детям. «Приключения Гекльберри Финна». Сериал (США, 1960). Режиссер М.Кертиц.
**15.35** «Мы с Шерлоком Холмсом», «Межа». Мультфильмы.
**16.05** «Российский курьер». Ростов Великий.
**17.50** «Дворцовые тайны». «Любовники княжны Туркестановой».
**18.15** Век полета: виражи и судьбы.
**18.45** «Партитуры не горят». Авторская программа А.Варгафтика.
**19.15** К 65-летию Альберта Филозова. «Взрослый молодой Альберт Филозов».
**19.55** **«ВИД НА ЖИТЕЛЬСТВО»**. Худ. фильм («Мосфильм», 1972).
Молодой и талантливый врач, считающий, что его недостаточно ценят на родине, воспользовался поездкой за границу и остался в одной из европейских стран. Но не найдя работы по специальности, он вынужден согласиться на предложение из школы диверсантов.
Режиссер: Омари Гвасалия.
В ролях: Альберт Филозов, Виктория Федорова, Ирина Сергеева, Леонид Недович и др.
**21.25** «Что делать?» Программа В.Третьякова.
**22.20** «Больше, чем любовь». «Огненный ангел».
**23.25** «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультфильм «Таз-мания».
**18.10, 21.20** Телемагазин.
**18.15** Валентин Гафт, Армен Джигарханян в худ.фильме **«КОРОЛИ И КАПУСТА»**.
**20.40** К-видео. «Топ-8».
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Гурман-клуб.
**21.30** Мистический триллер **«ДОМ С ПРИВИДЕНИЯМИ-2»**.

### СТВ

**16.00** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
**16.30, 19.00, 23.05** «24 часа».
**16.45** Минщина. Люди, события, факты.
**17.00** «Яго, темная страсть». Теленовелла.
**18.00** «Очевидец».
**18.35** «СТВ-спорт».
**18.40** «Виртуальный мир».
**18.50** «Тема дня».
**19.15** «Добрый вечер, малыш...».
**19.30** «Закон и криминал».
**19.45** «СТВ-спорт». Телеальманах.
**20.05** «Добро пожаловаться».
**20.15** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**20.30** «Пока горит свеча...».
**21.00** Мелодрама **«ПОСЛЕ СЕКСА»**.
В день, когда исполнился ровно год со дня развода Кэйт, она звонит своим приятельницам Трэйси, Викки и Дженет, и четыре молодые женщины, что-то объяснив своим мужьям и бойфрендам, едут в Палм-Спрингс на девичник. Они прекрасно проводят время, а вечером в баре знакомятся со стихийно прибившимися к ним мужчинами. Ночью - секс. Утром- тяжелая голова, дурнота, выяснения подружек между собой. И лишь вернувшись домой, Кэйт, Трэйси, Викки и Дженет сталкиваются с настоящей правдой, от которой они старательно укрывались в последнее время.
Режиссер: Кэймерон Тор.
В ролях: Брук Шилдс, Вирджиния Мэдсен, Мария Питилло, Стефани Вендитто.
**23.20** «Иллюзион»: фильм ужасов **«МУМИЯ»**.
Египетский жрец Имхотеп через 3700 лет после смерти возвращается к жизни. Он выдает себя за египтолога Ардета Бея и влюбляется в англичанку Хелен Гросвенор, в которой он узнал жрицу, жившую также почти сорок столетий назад, Он решает, что пришло время воссоединиться со своей возлюбленной в Вечности. А для этого ему надо убить Хелен...
Режиссер: Карл У.Фройнд.
В ролях: Брук Карлофф, Зита Джоханн, Дэвид Мэннерс, Эдвард Ван Слоун.
**01.00** Новости СНГ.
**01.15** Музыка на СТВ.

## среда

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 18.00, 23.30** Новости.
**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!
**09.15, 17.00** «Сыщики». Сериал.
**10.05** «Грозовые камни». Сериал для детей.
**10.35** Здоровье. Тележурнал.
**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.
**12.20** Добрый день, Беларусь!
**13.00** Кинопоэма **«СИБИРИАДА»** («Мосфильм»). 3-я серия.
**14.20** Футбол. Чемпионат мира. 1/2 финала. Трансляция из Японии.
**16.30** «Пять чудес».
**16.40** «5 х 5». Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**18.25** Зона Икс.
**18.35** «Москва-Минск».
**18.50** Психологическая драма **«ПОСТОВОЙ НА ПЕРЕКРЕСТКЕ»** (США).
После гибели дочери в автомобильной катастрофе отец не может утешиться тем, что водитель понес наказание. Он решается на страшную месть.
Режиссер: Шон Пен.
В главной роли: Джек Николсон.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**22.45** Спорт-курьер. Футбол.
**23.05** Криминальное досье.
**23.50** Детективный сериал «Гражданин начальник».

### ОРТ

Техническая профилактика по Минску и Минской области до 16.00.
**08.00** Новости.
**08.15, 17.20** «Семейные узы». Сериал.
**09.10** Эрик Робертс в триллере **«ЗОНА ТУРБУЛЕНТНОСТИ»**.
**11.00** Новости (с субтитрами).
**16.00** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**18.15** Владимир Ильин в авантюрной комедии **«МЕНЯЛЫ»**.
**20.00** Время.
**20.35** ОНТ представляет: «Наши новости».
**21.00** «Кто хочет стать миллионером?» Телеигра.
**22.00** Комедийный сериал «Китайский городовой».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Дневник Московского кинофестиваля.
**23.40** Боевик **«16-Й ОТДЕЛ»**.
**00.35** «Фирменный рецепт». Сериал.

### РТР

**07.00, 08.00, 10.00, 16.30, 19.00** Вести.
**07.10** Дежурная часть.
**07.15** Москва - Минск.
**07.30** Дорожный патруль.
**07.40** «Пролог». Часть II.
**08.10** Моя семья.
**09.00** Е.Копелян, П.Вельяминов, И.Лапиков, В.Спиридонов, Т.Семина и А.Роговцева в телесериале «Вечный зов».
**10.20** Г.Хазанов, В.Невинный, Е.Цыплакова и Е.Глушенко в комедии **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ И ВОРЫ»**. 1997 г.
**16.50** «Союз бывших». Док. фильм Алексея Денисова «Литва».
**17.35** Вести - Москва.
**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** И.Ботвин, Т.Бибич и Н.Бурмистрова в сериале «Агентство НЛС».
**20.55** Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ПРИКЛЮЧЕНИЕ ЗВЕЗДЫ ЗАПАДА»**. (Великобритания). 1990 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** Клуб сенаторов.
**23.15** Последний сеанс. Фильм **«ХОЛОДНОЕ ЛЕТО ПЯТЬДЕСЯТ ТРЕТЬЕГО...»** 1987 г.
В тайге скрывается амнистированная группа уголовников, совершающих одно преступление за другим. В поисках еды и средств передвижения они набредают на деревушку, где ожидают катер двое политзаключенных. Этим двоим и предстоит спасти мирных жителей от банды рецидивистов...
Режиссер: Александр Прошкин.
В ролях: Владимир Кашпур, Нина Усатова, Анатолий Папанов, Зоя Буряк, Валерий Приемыхов.
**01.25** Дневник Чемпионата мира по футболу.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ. ПО СЛЕДАМ АВАНГАРДИСТА»**. Остросюжетный фильм.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Криминальная Россия». «Убийственная страсть». 2-я часть.
**10.00** «Квартирный вопрос». «Падение сталинской стены».
**10.30** Экологическая «Среда».
**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.
**11.35** Детектив **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШЕРЛОКА ХОЛМСА И ДОКТОРА ВАТСОНА»**. Фильм 1-й. «Король шантажа».

АДМЫВАЮЦЬ

# «Ганьба расійскай палітыкі і юстыцыі»

**Дзяржаўны абвінаваўца на судовым працэсе па справе палкоўніка Юрыя Буданава, абвінавачанага ў забойстве чачэнскай дзяўчыны Эльзы Кунгаевай, прапанаваў амніставаць падсуднага.**



Нагадаем: былому камандзіру 160-га танкавага палка Буданаву прад'яўлены абвінавачанні па артыкуле 105 КК РФ, частка 2, пункт В (забойства, спалучанае з выкраданнем чалавека) і арт. 186, ч. 3 (перавышэнне службовых паўнамоцтваў з выкарыстаннем гвалту і прычыненнем цяжкіх наступстваў).

Але, мяркуючы па паведамленнях з залі паседжання Паўночна-каўказскага ваеннага акруговага суду, пракурор Сяргей Назараў у сваёй прамове прапанаваў лічыць Буданава невінаватым па артыкуле «забойства». Сваю прапанову пракурор матываваў тым, што, паводле судова-медыцынскай экспертызы, Буданаў быў прызнаны не пры памяці. На думку абвінаваўцы, Буданаў і другі абвінавачаны – ягоны калега па службе Фёдараў заслужылі трохгадовага пазбаўлення волі па другім артыкуле абвінавачання – за перавышэнне службовых паўнамоцтваў пры выкраданні Кунгаевай.

Потым абвінаваўца, спасылаючыся на прэзідэнцкі ўказ пра амністыю з нагоды 55-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і на ваенныя заслугі падсуднага, прапанаваў амніставаць Буданава.

Пасля выступу пракурора бакі перайшлі да спрэчак, але адвакат пацярпелага боку папрасіў адкласці паседжанне да серады, каб падрыхтавацца да заявы ў адказ. Суд гэтую просьбу задаволіў.

У ноч на 27 сакавіка 2000 году Буданаў прыехаў на бронемашыне ў паселішча Тангі, захапіў Кунгаеву, якую лічыў снайперам баевікоў, і адвёз у размешчанне часці. Там ён дапытваў яе, а потым задушыў, паля чаго загадаў сваім салдатам труп закапаць. У ходзе апошняй псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы было вызначана, што Буданаў у момант забойства быў не пры памяці.

Расійскае прадстаўніцтва міжнароднай праваабарончай арганізацыі *Human Rights Watch* (*HRW*) расцаніла намер пракурора амніставаць палкоўніка Буданава як «ганьбу расійскай палітыкі і юстыцыі».

«Мы памятаем, як 29 сакавіка 2000 году начальнік Генштабу Анатоль Квашнін дакладваў Пуціну пра надзвычайнае здарэнне ў Чачні, называў яго дзікім, ганебным выпадкам, і вось цяпер пракурор здымае абвінавачанне ў забойстве», – сказаў у аўторак «Інтэрфаксу» дырэктар расійскага прадстаўніцтва *HRW* Дыдзрык Лохман.

Ён лічыць, што апраўданне Буданава стала б ударам па даверы паміж расійскім і чачэнскім народамі. Акрамя таго, мяркуе праваабаронца, «маленькі тэрмін пакарання палкоўніку ці яго поўнае вызваленне развяжуць рукі ваенным у Чачні, якія цяпер будуць ведаць, што могуць захапіць з дому любую 18-гадовую чачэнку і забіць яе, а пазней трапіць пад амністыю».

# Калінінградскае пытанне

Уфэ ЭЛЕМАН-ЙЕНСЕН,
старшыня дацкага Цэнтру па міжнародных даследаваннях і правах чалавека

***За апошнія 12 гадоў практычна па ўсім прыбалтыйскім рэгіёне пачаўся росквіт. Эстонія, Польшча, Латвія і Літва ўзляцелі ад сацыялістычнай стагнацыі да ўзроўню ўступу ў Еўрасаюз. Санкт-Пецярбург стаў адкрытым горадам і пачаў шпарка развівацца. Усе посткамуністычныя прыбалтыйскія краіны і рэгіёны паступова стварылі структуру эканомікі, неабходную для развіцця і мадэрнізацыі сваіх грамадстваў і павышэння ўзроўню жыцця свайго насельніцтва.***

Усе, акрамя аднаго. Калінінградская вобласць, якая тоне ў карупцыі, галечы і безнадзейнасці, – жалю варты асяродак адсталасці сярод адносна заможнага рэгіёну. Ён мае найвышэйшыя ў Еўропе паказчыкі распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі і СНІДу, не кажучы ўжо пра тое, што наркаманія і алкагалізм атрымалі там пагрозлівыя маштабы.

Савецкі Саюз адабраў гэты анклаў у Нямеччыны ў канцы Другой сусветнай вайны і атрымаў законны суверэнітэт над ім у 1946 годзе,ператварыўшы Калінінград у незамярзаючы порт для ваенна-марскога флоту і закрыўшы яго ад навакольнага свету аж да 1989 году. Мясцовае нямецкае насельніцтва было выгнана, а яго культура і інстытуты – выцеснены хваляімі мігрантаў, якія цяпер, пасля краху савецкай ідэі, церпяць нястачу і нягоды.

Але можна з упэўненасцю сцвярджаць, што асноўная віна за хваравіты стан гэтага рэгіёну ляжыць на Расіі. Складаецца ўражанне, што расійскія ўлады або не дбаюць пра Калінінград, або чакаюць, што гэтую праблему вырашыць за іх нехта іншы. Але ў кожным разе ўсе прыбалтыйскія краіны, а таксама Еўрапейская камісія, павінны аб'яднаць свае намаганні, каб дапамагчы Калінінграду.

Дагэтуль цікавасць Еўрасаюзу да Калінінграду засяроджвалася на абмежаванні візавых правоў, якія цяпер дазваляюць яго жыхарам перасякаць Польшчу і дзяржавы Балтыі, каб наведаць астатнюю частку Расіі. Але пашырэнне Еўрасаюзу прывядзе да ажыўлення гандлю і эканамічнага росту па ўсім рэгіёне. Гэта, у сваю чаргу, створыць рэальныя стымулы, каб зрабіць Калінінград прывабнейшым суседам і гандлёвым партнёрам, а не проста страхавітаю крыніцаю нелегальных імігрантаў з Расіі ў Еўрасаюз.

Натуральна, шэнгенскія правілы, якія касуюць межы паміж краінамі Еўрасаюзу, паўплываюць і на Калінінград, калі да Еўрасаюзу далучацца Польшча і Літва. Неабходна будзе ўвесці візавы рэжым для тых, хто перамяшчаецца паміж Калінінградам і рэштаю Расіі. Але арганізацыя «транзітных калідораў», як прапануюць некаторыя, не вырашыць праблемы самой па сабе. Наадварот, калі адсталасці Калінінграду ад астатняга рэгіёну, за якую сорамна ўжо цяпер, будзе дазволена яшчэ больш паглыбіцца, то даведзеныя да адчаю яго жыхары звядуць на нішто любую схему рэгулявання нелегальнай іміграцыі.

Што Калінінграду неабходна, дык гэта выразны план доўгатэрміновага развіцця, супольна фінансаваны Еўрасаюзам і Расіяй і нацэлены на стварэнне аптымальнае схемы, якая б забяспечвала поўны ягоны ўдзел у гандлі і эканамічным развіцці ўсяго рэгіёну. Але такая стратэгія не павінна быць складанаю ў выкананні і занадта дарагою. Урэшце, Калінінград – гэта тэрыторыя, роўная памерамі дацкаму востраву Зеландыя. Яго насельніцтва (1 мільён) – складае менш за палову насельніцтва Капенгагена з прадмесцямі.

© Project Syndicate

# Фіны тужаць па сваёй Карэліі

***Праз пяцьдзесят гадоў па заканчэнні Другой сусветнай вайны Фінляндыя ўсё яшчэ носіць жалобу па Карэліі. Аддача гэтае тэрыторыі Савецкаму Саюзу прывяла да сапраўднага сыходу адтуль мясцовых жыхароў. Бальшыня карэльскага насельніцтва, каля 400 000 чалавек, перабраліся ў Фінляндыю.***

У Хельсінкі арганізацыя *Aluepalautus* (пафінску «вяртанне тэрыторыяў») ужо даўно змагаецца за вяртанне гэтых земляў, якія склалі б 10% ад агульнае плошчы Фінляндыі. Арганізацыя паставіла пытанне пра арэнду ў Расіі фермаў, закінутых у 1945 годзе. Гэта дазволіла б карэлам ці іхнім нашчадкам вярнуцца ў Карэлію – буферную зону, якая пачынаецца на берагах Фінскай затокі пры самым Санкт-Пецярбургу і распасціраецца за Ладажскае возера на поўнач.

## Знясце табу

У расійскім пасольстве ў Фінляндыі даволі суха згадваюць гэты непатрэбны «падарунак». «Без каментароў», «гэтае пытанне не актуальнае», кажа прэс-сакратар пасольства Арцём Сяменаў. У Міністэрстве замежных справаў Фінляндыі – таксама маўчанне. Адзін высокапастаўлены чыноўнік, які пажадаў захаваць інкогніта, праўда, пагаджаецца: «Гэта нацыянальная спрэчка, яна будзе трываць датуль, пакуль на свеце ёсць карэлы». Паводле дэмаграфічнае статыстыкі, людзей, якія перажылі вялікі сыход, застаецца 130 000 чалавек, але калі ўзяць пад увагу іхніх нашчадкаў, то гэтая група складзе 600 000 чалавек, альбо 11,5% насельніцтва Фінляндыі. У савецкі час Хельсінкі старанна замоўчваў гэтую праблему, як таго патрабавала палітычная сітуацыя. Не варта было дражніць магутнага суседа, мяжа з якім цягнецца на 1 300 км.

Пасля распаду СССР пытанне зноўку выплыла на паверхню. У 1992 годзе прэзідэнт Барыс Ельцын заявіў, што Карэлія застанецца расійскаю. Фіны пакорна змаўчалі, але табу было знятае. Падчас першага візіту ў Маскву новага прэзідэнта Фінляндыі Тар'і Халанен у чэрвені 2000 году Уладзімір Пуцін даволі суха адказаў на пытанне фінскага журналіста пра Карэлію: «Працягваць падобную дыскусію вельмі небяспечна». Будучы ў Хельсінкі ў верасні мінулага году, Уладзімір Пуцін быў менш рэзкі: «Пераглядмежаў – не найлепшы шлях», – сказаў ён і прапанаваў другое рашэнне – стаць на шлях інтэграцыі і супрацоўніцтва. Гэтага аказалася досыць, каб зноўку ажывіць спадзяванні карэлаў. У знак новае раздаткі Тар'і Халанен было дазволена ступіць на зямлю Карэліі ў суправаджэнні Пуціна. Такое права фінскі прэзідэнт атрымаў упершыню пасля Другой сусветнай вайны.

## Новы баланс

Арэнда зямлі не выклікае аднагалоснага ўхвалення сярод карэлаў. «Нашто арандаваць тое, што было ў нас скрадзена?» – абураецца Марці Сіірала, прадстаўнік радыкальнай арганізацыі. Некаторыя глядзяць нашмат далей. Яны думаюць пра Карэлію як пра новае Эльдарада, – настальгія рэваншу прымушае марыць пра эру эканамічнага росквіту гэтага заняпалага рэгіёну, які знаходзіцца каля самых варотаў Еўрапейскага Саюзу. «Мы не спадзяёмся, што колішнія карэлы змогуць там жыць», – расказвае Юка Сепінен, раней – дыпламат, які займаў пракарэльскую пазіцыю, – хутчэй мы чакаем адраджэння Карэліі, дзе фінскія кампаніі маглі б ствараць працоўныя месцы. Цяпер усё складаецца на карысць рэгіёну Хельсінкі-Тамперэ-Турку, а ўвесь усход Фінляндыі знаходзіцца ў свабодным падзенні. Развіццё Карэліі магло б паспрыяць стварэнню новага тэрытарыяльнага балансу краіны».

## Пацярпелыя

Эканамічны бум? «Цяжар для нашае добрае дзяржавы», – хорам адказваюць чатыры фіны з пяці, тыя, што супраць вяртання Карэліі. Пасля паўвекавога расійскага панавання інфраструктура рэгіёну выглядае пусткаю. А што рабіць з 300 000 жыхароў – расійцаў, украінцаў, беларусаў або выхадцаў з Сярэдняй Азіі? «Не будзе нічога бесчалавечнага, калі гэтыя людзі пададуцца дадому», – холадна заяўляе Марці Сіірала. «Мы можам дазволіць вярнуцца ў Расію тым, хто пажадае, мы дамо ім крыху грошай, – кажа Юка Сепінен, – усе астатнія могуць стаць грамадзянамі Фінляндыі. Згодна з апытаннямі, зробленымі ў Віпуры, 80% расейцаў прыхільна ставяцца да прылучэння да Фінляндыі». У той жа час былы дыпламат здае сабе справу ў існаванні падводных рыфаў: «У пэўным сэнсе лёс Карэліі звязаны са справаю Курыльскіх выспаў, якія служаць прадметам спрэчкі паміж Расіяй і Японіяй». Вяртанне Карэліі магло б прывесці да небяспечных наступстваў. Іншыя малыя рэспублікі былой імперыі таксама маглі б задумацца пра свой лёс.

Liberation

# Еўропа здае пазіцыі

*У чвэрцьфіналах футбольнага мундыялю еўрапейскіх зборных толькі палова*

Сёння пасля двухдзённага адпачынку на чэмпіянаце свету па футболе распачынаюцца чвэрцьфіналы. Лепшай футбольнай камандай на планеце могуць стаць Іспанія, Бразілія, Турцыя, Германія, Англія, Сенегал, Паўднёвая Карэя ці ЗША.



Еўропу даймае спякота. Толькі распрануўшыся, можна вытрываць каля тэлеэкрану, тым больш калі твае ўлюбёнцы выбываюць з сусветнага чэмпіянату. Італія. Віярэджыо

Гэтыя зборныя пераліčаныя не ў адвольным парадку, а паводле прагнозу НАШАЙ СВАБОДЫ на іхнія шанцы стаць чэмпіёнам, срэбраным прызёрам, бронзавым і гэтак далей. Натуральна, прагнозу, падкарэктаванага ўжо ў ходзе турніру, бо перад пачаткам чэмпіянату асабіста я, відаць, як і многія заўзятары, ставіў на іншыя каманды. На тых жа аргенцінцаў, партугальцаў, французаў, італьянцаў, гульня якіх на мундыялі-2002 аказалася далёкай ад перамогі, як той Далёкі Усход, дзе праходзіў сам чэмпіянат.

Гэты чэмпіянат свету, як ніякі іншы, стаўся багатым на сенсацыі. Стадыяй гульняў у групе іх чарада не вычарпалася, а плаўна перабралася і на матчы 1/8 фіналу. На гэтым этапе дахаты паехаў яшчэ адзін фаварыт чэмпіянату – зборная Італіі, што прайграла карэйцам. Яшчэ адну неспадзяванку ледзьве не ўчынілі бельгійцы, наблізіўшыся да таго, каб выбіць з турніру бразільцаў.

У прынцыпе, усе фаварыты чэмпіянату свету па футболе ў Паўднёвай Карэі ды Японіі, чые дачасныя вылеты ператварыліся ў сенсацыі, насамрэч прайгралі абсалютна заслужана. Тут не было ні грубых судзейскіх памылак, ні татальнага невезення. Сапраўдным адкрыццём чэмпіянату нумар адзін па ўсім можна назваць зборную Сенегала. Калі ў гульні сенегальцаў не лясне цца дысцыпліна, яны могуць не абмежавацца прысутнасцю толькі ў «васьмёрцы». Што да іншых чвэрцьфіналістаў-«выскачак», то для зборнай Паўднёвай Карэі і для амерыканцаў, відаць, гэта верх магчымага.

А наогул склад удзельнікаў чвэрцьфіналаў сведчыць пра тое, што Еўропа страчвае дамінуючыя пазіцыі ў сусветным футболе. Еўрапейскіх зборных на стадыі 1/4 фіналу ўсяго толькі чатыры з васьмі, то бок палова. Мінулымі чэмпіянатамі сітуацыя была такая: у 1998 годзе на гэтай стадыі турніру засталося 6 еўрапейскіх каманд плюс Аргенціна ды Бразілія, у 1994 годзе – 7 плюс Бразілія, у 1990 годзе – 6 плюс Аргенціна і Камерун. Як бачым, Еўропа саступае.

Кірыла ПАЗЬНЯК

СВЕЦКАЕ ЖЫЦЦЁ



Каралевы Даніі, Англіі і Галандыі (злева направа) на ўрачыстым юбілейным прыёме, які ладзіла каралева Вялікабрытаніі ў Віндзарскім замку.

КУЛЬТУРА

## Калізей можа стаць прыватным

У Італіі нарастае культурны скандал, у цэнтры якога апынуўся прэм'ер-міністр Сільвіо Берлусконі. Італьянская грамадскасць абураная яго планамі перадаць адміністраванне культурных помнікаў у прыватныя рукі. Шмат хто падазрае, што ў рэшце рэшт такая акцыя скончыцца тым, што Калізей ды іншыя помнікі культуры, якія служаць сімваламі Італіі, будуць прададзены прыватным гаспадарам. Прэзідэнт Італіі Карла Чампі нават зрабіў надзвычайныя захады – напісаў Берлусконі ліст, у якім патрабуе, каб урад даў канкрэтныя гарантыі наконт сваіх планаў прыватызацыі культурнай спадчыны. А тыдзень таму ў знак пратэсту пайшоў у адстаўку намеснік міністра культуры Віторыо Сгарбі. Ён выказаў боязь, што меркаваная прыватызацыя прывядзе да нацыянальнай катастрофы ў сферы культуры, напрыклад, да продажу калекцыі галерэі Уфіцы ў Фларэнцыі.

# Уцячы з Грузіі, каб вярнуцца

***Грузіны не купаюцца ў золаце. Не ўсе яшчаркі ў мурах дамоў былі раздушаны падчас красавіцкага землятрусу ў Тбілісі. То тут, то там можна сустрэць напаўразваленыя будынкі – яны нагадваюць занядбаныя кварталы Гаваны. Майстэрні, заводы здаюцца пустымі. І каб прайсціся па калідорах паўпустога «элітнага» будынку аэрапорта, іншаземец мусіць раскашэліцца на дваццаць далераў...***

Не дзіва, што грузіны ўцякаюць ад такога жыцця. Напрыклад, у Бельгію. Міністр замежных справаў краіны, Луі Мішэль, які заехаў у Тбілісі праездам з Тэгерану, на сустрэчы са сваім калегам Іракліем Менагарышвілі ўзняў пытанне пра эміграцтаў. Бельгія хоча, каб Грузія забрала назад сваіх грамадзянаў, якія прыбываюць туды, каб папрасіць палітычнага прытулку. Насамрэч жа ў пераважнай сваёй большасці яны спрабуюць эміграваць з эканамічных матываў. У 2000 годзе каля 1 230 грузінаў, вымушаных жыццёвымі абставінамі, звярнуліся да Бельгіі з просьбай аб палітычным прытулку. Бельгійскія ўлады лічаць гэты паток імігрантаў занадта моцным. У 2001 годзе яны арганізавалі калектыўную рэпатрыяцыю грузінскіх нелегалаў.

Гэтыя «чартэрныя рэйсы» і ўвод больш жорсткае працэдуры атрымання прытулку («прыём» у закрытых цэнтрах, скасаванне дапамогаў) прывялі да рэзкага спаду колькасці просьбаў. Але да сённяшняга дня Тбілісі заставаўся на рэдкасць непадатны і быў адвочна не гатовы прымаць «уцекачоў», выдаючы ім дазволы на ўезд у дзень па чайнай лыжцы. Напэўна, краіне цяжка змірыцца з гэтымі ўцёкамі. Бельгія пачала з Грузіяй перамовы пра вяртанне грузінаў, што знаходзяцца ў краіне нелегальна. Іраклій Менагарышвілі актыўна ўключыўся ў гэтую дыскусію. Акрамя таго, Бельгія прапанавала ўдакладніць умовы для ўезду ў краіну на законных падставах і гатова даць прафесійную адукацыю грузінам, якія часова знаходзяцца на бельгійскай тэрыторыі.

«Мы жывём надзеяй на лепшае жыццё», – прызнаўся прэзідэнт Эдуард Шэварднадзе, які пры Гарбачову быў міністрам замежных справаў СССР. Падчас ягоных перамоваў з бельгійскім міністрам перад будынкам сабралася жменька маніфестантаў. Яны асвісталі прэзідэнта.

Грузія зазнае вялізныя эканамічныя цяжкасці. Яе «новае жыццё» зводзіцца да свабоднага падзення: у 2000 годзе даход на душу насельніцтва не перавышаў 29% ад узроўню 1990 году. Замежныя інвестыцыі практычна не існуюць. Ценевая эканоміка складае палову ўсяе эканомікі краіны. «Без вырашэння ўнутраных праблемаў немагчыма эканамічнае адраджэнне», – кажа Шэварднадзе.

Таму Тбілісі прыязна сустрэў амерыканскіх ваенных спецыялістаў – кожны візіт заходняга лідэра ці замежная прысутнасць дазваляюць аслабіць уплыў Расіі. Грузія – смачны кавалак. Па сваім геаграфічным становішчы яна ідэальна пасуе для транспартавання нафтапрадуктаў Каспійскага мора, гэтага Эльдарада XXI стагоддзя. Спадзеючыся на нафтавую гонку, насельніцтва краіны чакае не дачакаецца, калі ж і яму дадуць хоць каліва ў рот укінуць.

Le Soir

МЕРКАВАННІ

## Капіталізм – вар'яцтва па-амерыканску

**Уінстан Чэрчыль мог бы сказаць: «капіталізм – найгоршая з эканамічных сістэмаў, пакуль лепшай не знайшлося».**

Але з некаторай пары ў ЗША гэтая сістэма пачала смярдзець гніллю, так што нават найменш далікатныя людзі мусяць заціскаць насы. Генры Паульсан, усемагутны патрон кампаніі *Goldman Sachs*, нядаўна сказаў: ён ніколі не думаў, што «рэпутацыя можа быць настолькі сапсаванай». Хвалёны давер можна выкінуць у сметніцу. Інвестары адчуваюць сябе, як пасля халоднага душу, і кідаюцца ад біржы, як ад агню.

У чым корань зла? Якія гнілыя яблыкі (кампаніі *ImClone*, *Tyco*, *Enron* і г. д.) належала перадусім разглядаць у вялікім кашы спелай садавіны? Праблема носіць больш агульны характар: «зло» – у тым прынцыпе, паводле якога «найгоршая з сістэмаў» функцыянуе ўжо дваццаць гадоў. Матор машыны, вядома ж, прыбытак. Але сэнс гэтага слова змяніўся. Прыбытак больш не служыць развіццю прадпрыемства і выкананню сацыяльнага абавязку. Гэтыя мэты (развіццё, аздараўленне) маюць сэнс толькі ў тым выпадку, калі абяцаюць прынесці ў найкарацейшыя тэрміны найбольшы даход акцыянерам. Рады дырэктараў, каб задаволіць прагавітасць рознай драбязы, змагаюцца за прызнанне самых кампетэнтных, агрэсіўных і рызыкоўных выканаўчых дырэктараў, якія могуць прынесці найбольшы прыбытак. Гэтыя чараўнікі, пазбаўленыя і страху, і згрызотаў сумлення, цэняць золата: яны атрымліваюць галавакружныя «кампенсацыі», прапарцыянальныя (у фондавых апцыёнах) прыбыткам галоўных кіраўнікоў справамі ў кампаніях.

Якімі спосабамі? У рэшце рэшт – як паказваюць апошнія скандалы – любымі, законнымі і не вельмі. Тармазоў больш няма, бо «выканаўца», які цэрпіць паразу або выходзіць з гульні, аказваецца ў поўнай бяспецы. Ён зрывае куш і, калі сумняваецца ў поспеху, можа зрабіць усё, каб захаваць сваё багацце – збываючы акцыі ў масавым парадку ў самы адпаведны момант (гэта здараецца часта-густа); а калі кампанія церпіць крах, ён распраўляе крылы і ляціць сабе прэч.

На гэтай слізкай дарозе «найгоршая з сістэмаў» можа скруціцца. Ці здатна яна рэфармаваць сама сябе? Яе лідэры, вядома, вераць у гэта. Пагледзімо, ці маюць яны рацыю.

Le Temps

# Райскі шлях праваслаўнай веры

## *Палата прадстаўнікоў на сцежцы рэлігійнай вайны*

***18 чэрвеня ў Мінску абвешчана пра стварэнне чарговай грамадзянскай ініцыятывы – «За свабоду веравызнання». Каталізатарам для яе стварэння сталася прыняцце 31 траўня Палатай прадстаўнікоў у першым чытанні законапраекту «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях». Паводле законапраекту, у краіне фактычна ўсталёўваецца верхавенства праваслаўя. «Прымаючы гэты законапраект, дэпутацкі корпус стаў на сцежку рэлігійнай вайны, абвяшчаў барацьбу тром найбуйнейшым рэлігійным канфесіям Беларусі», – заявіў сябра камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ ПП Іван Пашкевіч.***



Прыняцце законапраекту скіравана перш за ўсё на тое, каб «загнаць у рэзервацыю», па вызначэнні І. Пашкевіча, пратэстанцкія канфесіі.

15–16 чэрвеня каля 700 пратэстанцкіх суполак па ўсёй Беларусі аб'явілі пост і правялі малітвы супраць прыняцця законапраекту «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» у прапанаванай рэдакцыі. Грамадзянская ініцыятыва мае намер дабівацца «ліквідацыі ўсіх формаў нецярпімасці і дыскрымінацыі на аснове рэлігій ці перакананняў». Кардынатар ініцыятывы Алесь Вялічка агучыў «праграму трох крокаў», скіраваную супраць прыняцця дыскрымінацыйнага закону.

**3 700 пратэстанцкіх суполак каля 30% не змогуць дзейнічаць у нававызначаных рамках**

Ініцыятыва будзе дамагацца пераносу разгляду законапраекту ў другім чытанні сама менш да восені – каб абмеркаваць законапраект галосна, бо ніводная з рэлігійных канфесіяў не атрымала праект для азнаямлення. Аднак гэта малаверагодна, бо, як сказаў І.Пашкевіч са спасылкай на намесніка старшыні ПП Уладзіміра Канаплёва, праект будзе разгледжаны ў другім чытанні на летняй сесіі – да 28 чэрвеня. **«Спадар Канаплёў сказаў, што ён даў слова ўладыку Філарэту, таму ў парушэнне ўсялякіх актаў і рэгламенту гэты законапраект будзе разгледжаны ў другім чытанні на гэтай сесіі»**, – працытаваў У.Канаплёва парламентарый.

Другім крокам ініцыятывы мае стаць зварот да А.Лукашэнкі скарыстаць права вета. І трэці крок, крайні, – распрацоўка ўласных паправак да закону, пад якімі, каб унесці іх у Палату прадстаўнікоў, трэба будзе сабраць 50 тысячаў подпісаў. Прамежкавым этапам стануць грамадскія слуханні па праблеме законапраекту з запрашэннем усіх зацікаўленых, якія мяркуецца правесці 24 чэрвеня.

Іван Пашкевіч заявіў, што пасля прыняцця законапраекту ў першым чытанні ў ПП «**паступілі звыш 400 зваротаў, паправак і заўваг да законапраекту. Мне асабіста паступілі 70 правак – па сутнасці, перапрацаваны закон. 400 зваротаў паступілі ад грамадзянаў, суб'ектаў заканадаўчай ініцыятывы, дэпутатаў – ніводная праўка, ніводзін зварот, якія паступілі ў ПП, не даведзеныя да ведама дэпутацкага корпусу. Больш за тое, я запатрабаваў размножыць дакументы хоць бы для сябраў камісіі, на што мне было сказана: гэтыя прапановы паступілі не ад суб'ектаў заканадаўчай ініцыятывы**», – сказаў І. Пашкевіч. «Робіцца ўсё, каб гэты законапраект негалосна, у парушэнне дзеючага рэгламенту ПП, быў прыняты ў другім чытанні ўжо на гэтай сесіі», – упэўнены дэпутат.

Канчатковая мэта законапраекту – узвысіць праваслаўе. Аляксей Ваганаў, Станіслаў Гаварушкін, шмат хто яшчэ прапануюць унесці ў прэамбулу фразу аб «прызнанні выключнай ролі Праваслаўнай царквы ў гістарычным станаўленні і развіцці духоўных, культурных і дзяржаўных традыцыяў беларускага народу». Навошта ўносіць сумятню ў міжканфесійныя адносіны, чаго ў талерантнай Беларусі ніколі не было? Іван Пашкевіч лічыць, што гэты «законапраект ідзе ўразрэз з канонамі, арганізацыйнымі структурамі пратэстантызму, іудаізму і рыма-каталіцкай царквы» – супраць іх ён найперш і скіраваны.

Дэпутат бачыць тры прычыны, чаму «палітыкі ўлазяць у сферу рэлігіі». «Сёння царква як сацыяльны інстытут займае першае месца ў рэйтынгу паводле ўплыву на грамадства. Якраз міма гэтага не можа прайсці ўлада і іншыя палітыкі, таму яны хочуць улезці, і ўлазяць, – тапорна, праўда, – у рэлігію».

«Другая, ужо суб'ектыўная, прычына, характэрная для адной палітычнай плыні – камуністычнай партыі. Гэтая палітычная група перакананая, што аднавіць СССР, адрадзіць славянскае адзінства можна толькі на аснове праваслаўя», – кажа І. Пашкевіч. І трэцяя, апошняя, прычына: «камуністычная большасць у парламенце і крайне радыкальнае крыло ў атачэнні Аляксандра Лукашэнкі бачаць у свабодным існаванні цэркваў адкрытую пагрозу».





Іван Пашкевіч папярэджвае праваслаўную царкву, якая імкнецца заканадаўча замацаваць сваё верхавенства над іншымі рэлігіямі, пра небяспеку падобнага кроку. **«Я цяпер хачу засцерагчы кіраўніцтва праваслаўнай царквы. Гэтая гульня вернецца да праваслаўнай царквы бумерангам. У выпадку прыняцця гэтага закону вернікі пачнуць шукаць вінаватых у рэлігійным асяродку – і вінаватыя будуць названы. Дагэтуль усе канфесіі ўжываліся, усім хапала месца. І калі будзе названы вінаваты ў рэлігійным асяродку – вы ўяўляеце, да якіх наступстваў гэта можа прывесці»**, – заявіў Іван Пашкевіч.

Якую небяспеку нясе законапраект «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях» для вернікаў? Артыкул 14 кажа: «Рэлігійныя абшчыны ўтвараюцца па ініцыятыве не менш як 20 грамадзянаў РБ, якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту і пастаянна жывуць у адным або некалькіх населеных пунктах, што маюць сумежныя тэрытарыяльныя граніцы». Каб стварыць рэлігійнае аб'яднанне, патрэбна наяўнасць 10 рэлігійных абшчынаў, якія мусяць дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі не менш як 20 гадоў. Такім чынам, канфесія прагрэсіўнага іудаізму апынаецца па-за гульнёй.

Апроч таго, каб адпраўляць рэлігійныя абрады, з прыняццем гэтага законапраекту вернікам давядзецца звяртацца ў мясцовыя органы ўлады.

«Беларусь, якая заўсёды вызначалася верацярпімасцю, зноў прыцягне да сябе ўвагу міжнароднай грамадскасці (І. Пашкевіч накіраваў законапраект на экспертызу ў Савет Еўропы). А рэлігійных людзей новы закон проста не зможа спыніць у іх імкненні вызнаваць сваю веру», – падсумаваў Іван Пашкевіч.

**Рыгор БУЯН**

# «Журавы» нясуць шчасце

**Новы альбом добра вядомага этна-трыо «Троіца» з простай і цёплай назвай «Журавы» сапраўды нясе на сваіх кволых, але і моцных крылах-мелодыях нейкую першародную чысціню, спакой і ўпэўненасць, якія выклікаюць на вуснах шчаслівую ўсмешку.**

Вельмі доўгі, складаны, але цікавы і насычаны шлях прайшлі музыкі «Троіцы», каб зайграць такую музыку, ці, лепей сказаць, так зайграць музыку прашчураў, каб яна не пакінула абыякавымі самых розных людзей. Пра разнастайнасць прыхільнікаў творчасці гурта вельмі яскрава сведчыў той кантынгент, што сабраўся на прэзентацыі альбому тыдзень таму. На самой справе дыску «Журавы» да гэтага часу ўжо споўніўся год, бо запісаны і выпушчаны ён быў у Галандыі ўвесну мінулага году, але для нашага слухача ён быў надта дарагі. І вось толькі цяпер ён перавыдадзены з беларускім лэйблам, калі ў музыкаў ужо амаль гатова наступная праграма. За 4 гады існавання этна-трыо «Троіца» адыграла каля 200 канцэртаў у Беларусі, Расіі, Германіі, Нідэрландах, Бельгіі, Аўстрыі, Югаславіі, Венгрыі, Польшчы, Партугаліі і іншых краінах. Калектыў быў прэміяваны Фондам Сораса, таксама мае дыплом Генры Форда за эксперыменты і музычныя праекты. За гэты час трыо стала адной з самых любімых «страваў» беларускіх меламанаў, дый не толькі нашых (на некаторыя еўрапейскія фестывалі музыкаў запрашаюць ужо каторы год запар), і, што самае галоўнае, «Троіца» сфармавала новы сучасны комплексны падыход да выканання старажытных песень і такім чынам займела сваё адметнае і непаўторнае гучанне.



Сёння этна-трыо прадстаўляюць Іван Кірчук – стваральнік і генератар ідэйнай энергіі, а таксама дудар, флейтыст, струннік, пясняр і шмат-шмат хто яшчэ, Юрась Паўлоўскі – выдатны мультыперкусіяніст-інаватар, які цудоўна ўпісаўся ў даволі своеасаблівае гучанне «Троіцы», і, нарэшце, Юрась Дзмітрэй – асноўны струннік (часам падспеўвае і падыгрывае на іншых інструментах). Галоўны творчы прынцып калектыву – заўсёдны паступовы прагрэс, што даволі складана, калі іграеш у прынцыпе традыцыйную музыку, і што пакуль у гэтых людзей атрымліваецца, нават на сусветным узроўні. Кожная новая праграма, падкрэсліваючы самае лепшае з папярэдніх, заўсёды «выкідвае» слухачу нешта прынцыпова новае, цікавае, бясконца прыгожае і шчырае. Слухаць гэтую музыку ўжывую – кранацца нірваны і гаманіць па-свойску з продкамі. На канцэртах заўсёды адчуваецца подых цуду, які не прымушае доўга сябе чакаць і адбываецца падчас выступу акурат на сцэне – глядзіш, слухаеш і проста не разумееш, адкуль бяруцца некаторыя гукі і тэмбры, то зліваючыся ў адну неабдымную музычную істоту, то рассыпаючыся на безліч маленечкіх гукавых кавалачкаў, што звіняць, стогнуць, пішчаць, спяваюць…

Што тычыцца непасрэдна альбома «Журавы», яго складаюць 15 песень розных гістарычных перыядаў і тэматыкі – ад вясельна-абрадавай да лірычна-філасофскай. Дыск аздоблены выдатнымі малюнкамі ў вясковым духу, а таксама інфармацыяй пра гурт і тэкстамі пра жыццё, час, вечнасць і спадчыну, якія настройваюць на старажытную хвалю. Запіс, намаганнямі галандскага гукарэжысёра, паводле задумы музыкаў максімальна набліжаны да натуральнага, жывога – мінімум спецэфектаў і студыйных апрацовак. Ідэя ўдалася: музыкаў чуваць як жывых. Трэба яшчэ адзначыць, што і першая студыйная праца «Троіцы» з аднайменнай назвай гучыць ніколькі не горш, хоць і запісвалася на мазырскай студыі – гэта яшчэ раз падкрэслівае ўзровень самога выканання музыкі. І, на дадатак, колькі словаў пра новую праграму, добры кавалак якой выконваўся на прэзентацыі дыску. Яна яшчэ мацнейшая і больш «наварочаная» (у добрым сэнсе) з усяго, што рабілася гуртом дагэтуль, і прэтэндуе стаць падзеяй на сусветнай фолк-сцэне – настолькі моцна адчуваецца настрой нашай эпохі, пабудаваны на матэрыяле і духу мінулых стагоддзяў. Пры ўсім гэтым Іван разам з Юрамі амаль не выкарыстоўваюць сучасных тэхнічных «прыбамбасаў»: усе іх дасягненні – на ідэйна-творчым узроўні.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Ад'ютант Барыса Рагулі

## *Сямён Шарэцкі ў часе сваёй эміграцыі адшукаў пакутнікаў за Беларусь*

***У літоўскім выдавецтве Jusida надрукаваная кніга экс-старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га склікання Сямёна Шарэцкага «Іх лёсы звязаныя з Вільняй». Гэтая літаратурная праца – вынік блізкага знаёмства кіраўніка парламенту з асяродкам беларусаў у замежжы. Маючы за плячыма 65 гадоў, С.Шарэцкі асабліва цікавіўся лёсамі старэйшага пакалення.***




### Жыццё для іншых

Ва ўводзінах аўтар наракае на небагатую колькасць мемуарнай літаратуры і мастацка-біяграфічных аповедаў пра жыццё канкрэтных людзей у Беларусі. У народзе, на думку С. Шарэцкага, мала ведаюць пра сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны, якія «ужо не толькі адчуваюць сябе цэльнымі вольнымі асобамі, але і настойліва змагаюцца за незалежнасць сваёй Радзімы, дапамагаюць астатняй частцы беларускага народа вызваліцца ад рабскай псіхалогіі». Менавіта з такімі патрыётамі давялося сустракацца спікеру Вярхоўнага Савету Беларусі ў перыяд яго палітэміграцыі ў Вільні.

Усе яны лічаць сябе беларусамі і сваёй роднаю мовай – беларускую. Сярод гэткіх беларусаў-віленчукоў Сямён Шарэцкі называе Хведара Нюньку – старшыню грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай культуры ў Літве». У біяграфічным аповедзе «Змагар за беларускасць» аўтар кнігі характарызуе свайго героя як выхадца з сям'і змагароў за нацыянальнае адраджэнне. Хведар Нюнька зараз абраны сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Таварыства беларускай культуры (ТБК) імкнецца актыўна рэагаваць на падзеі ў Беларусі, выдае газету «Рунь», мае некалькі сваіх філіяў на тэрыторыі Літоўскай Рэспублікі.

Прапануючы знаёмства з віленскай беларускаю Нінай Рыгораўнай Брылеўскай, аўтар захапляецца яе мужнасцю. Дзіця святара, які зазнаў 10 гадоў лагернага жыцця на поўначы Расіі, не адцуралася бацькі і веры, хоць з-за гэтага ёй не дазволілі выкладаць у школе на Беларусі. Ведаючы рускую, літоўскую і польскую мовы, Ніна Рыгораўна ўладкавалася ў Вільнюсе бібліятэкаркаю ў школу з трыма мовамі навучання.



**Кастусь Шышэя (першы справа) у гасцях у Зоські Верас (у цэнтры) у яе віленскай сядзібе**

### Жаўнер Беларускага эскадрону

Кастусь Шышэя і Сямён Шарэцкі – земляні, абодва з Навагрудчыны і нават з суседніх вёсак. У 1941 годзе Сямёну было ўсяго 14, ён зведаў фашысцкую акупацыю і прайшоў, як сам кажа, універсітэты сіроцтва.

Кастусь Шышэя – «заходнік», які на час вялікіх пераменаў меў ужо немалы жыццёвы досвед. У верасні 39-га без чужой падказкі зразумеў несправядлівасць гвалту. Рабоча-сялянскі камітэт у яго роднай вёсцы Шчорсы арыштаваў усіх мужчынаў з іхняга дому: бацьку, Косцю і брата Сашу. Пакуль іх трымалі ў будынку былой гміны, хату разрабавалі і спустошылі свіран. Новая ўлада палявала на заможных вяскоўцаў, каб запалохаць астатніх, зрабіць іх паслухмянымі і безгалосымі. Калі ў вёсцы Краскоўскія Горы арганізавалі калгас, то ад Шышэяў, хоць яны не былі калгаснікамі, забралі бліжэйшую зямлю, каня, карову, калёсы на жалезным ходу, плуг і іншы гаспадарчы інвентар. А зімою гаспадарцы прызначылі яшчэ і норму вывазкі лесу ў памеры 30 кубаметраў. Прычым, калі Косця пастараўся і вывез сваю норму, дык яму далі яшчэ 18 кубаметраў.

Саветы абклалі людзей не меншымі, чым пры Польшчы, падаткамі.

Немцы ў 41-м павялі сябе тут, як і бальшавікі. Узброеных людзей станавілася ўсё больш. Днём у вёсках гаспадарылі немцы, паліцыянты, а ўначы – партызаны, у тым ліку і польскія. Кастусь Шышэя баяўся партызанаў і не меў жадання апынуцца сярод іх. Не было ў яго жадання служыць і немцам. Б'юць немцы, б'юць партызаны, б'юць і свае здраднікі, якім ўсё роўна, каму служыць – немцам ці бальшавікам... Што рабіць? Былы Кастусёў настаўнік Аркадзь Бузук даў юнаку пачытаць «Бюлетэнь БНП». Беларуская незалежніцкая партыя ставіла перад сабою задачу актывізаваць барацьбу за шырокае адраджэнне беларускасці (нацыянальных школ, мовы, царквы, войска), а пасля і нацыянальнай дзяржавы. Маладому Шышэю ідэя спадабалася. На пачатку другой паловы 1943 году ў Навагрудку ён далучыўся да фармавання Беларускага войска, вучэбную падрыхтоўку якога ачольваў Барыс Рагуля. 25 сакавіка 1944 году разам з іншымі жаўнерамі Кастусь Шышэя прыняў прысягу.

Ядром Беларускага эскадрону ў Навагрудку сталіся навучэнцы настаўніцкай семінарыі. Кастусь Шышэя ўзначальваў адно з падраздзяленняў і выконваў абавязкі ад'ютанта капітана Рагулі. Той у акупацыю выкладаў у Навагрудскай беларускай настаўніцкай семінарыі, меў аўтарытэт сярод студэнтаў, і менавіта ён скарыстаў аслаблены стан немцаў, каб дамагчыся дазволу на ўтварэнне Першага Беларускага эскадрону.

*Учынкі людзей у складаныя перыяды гісторыі Бацькаўшчыны, відавочна, служылі маральнай падтрымкаю аўтару кнігі – вышэйшаму дзяржчыноўніку, які страціў разам з уладаю і душэўны спакой*

Крыві на руках маладых эскадронаўцаў не было. Яны верылі самі і агітавалі людзей, што пасля скончэння вайны адбудзецца рэферэндум (на гэта разлічвала кіраўніцтва Беларускай Цэнтральнай Рады) і трэба будзе галасаваць за незалежнасць Беларусі і стварэнне сваёй нацыянальнай дзяржавы. У кастрычніку 44-га, калі эскадрон пасля некалькіх рэйдаў быў пераарыентаваны на агітацыйную працу, Кастусь Шышэя ў групе з 28 дэсантнікаў апынуўся ў тыле савецкага войска паблізу Налібоцкай пушчы.

Дэсантнікаў затрымалі па даносе. Дапытвалі Кастуся Шышэю ў Юрацішках і Лідзе, а потым перавялі ў Гомель у новую турму, якую тады толькі што пабудавалі палонныя немцы. 24 снежня 1945 году Кастуся прызначылі «на этап» у лагеры ГУЛАГу, прысудзіўшы да 10-гадовага тэрміну перавыхавання, які ён адбыў да апошняга званка.

### Што засталося па-за радкамі Шарэцкага

Сямён Шарэцкі не адразу атрымаў згоду Шышэі на літаратурны запіс ягоных успамінаў. Канкрэтныя прыклады з жыцця знаёмых абодвум землякоў, якія на старасці апынуліся ў калгасах на мяжы жабрацтва, вымушалі Шышэю вінаваціць Шарэцкага за тое, што і ён прыклаў да гэтага свае рукі. Госць хаця і быў у самоце, але за праўду не пакрыўдзіўся. Амаль штодня ён пад'язджаў да шматпавярховага дома на аўтамашыне з аховай. Падымаўся з аглядкаю, ці не пераследуе хто, на чацвёрты паверх, прасіў кавы і ўважліва слухаў кожнае слова гаспадара. Шарэцкі пачаў запісваць за Шышэем і па яго просьбе даваў перачытваць кожны лісток чыставіка. Як прызнаецца Сямён Шарэцкі, у Шышэяў ён змог адчуць, што «...і турмы, і сталінскія лагеры аказаліся бяссільнымі і не змаглі вытравіць з душаў гэтых людзей беларускую дабрыню і прыстойнасць».

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 21 чэрвеня

**1832.** Нарадзіўся Джозеф Рэйні – першы негр, былы раб, які стаў дэпутатам у Кангрэсе ЗША.

**1852.** Памёр вядомы нямецкі педагог Фрыдрых Фрэбель, стваральнік дзіцячых садкоў. Ён прыйшоў да высновы, што важнае месца ў выхаванні і навучанні дзяцей займаюць гульні. Каб праверыць сваю тэорыю на практыцы, у 1837 годзе ў нямецкім горадзе Бланкенбургу Фрэбель арганізаваў першы ў свеце дзіцячы садок.

**1937.** Старшыня СНК БССР М. Галадзед, крыху раней арыштаваны ў Маскве і прывезены ў Мінск, знаходзіўся на допыце ў кабінеце следчага ў будынку НКУС. У гэты момант, паводле адной версіі, ён вырашыў скончыць жыццё самагубствам і выкінуўся з акна. Па другой версіі, яго выкінулі НКУСаўцы.

### 22 чэрвеня

**1527.** Памёр Нікола Макіявелі, выбітны італьянскі палітык, дыпламат і філосаф. Цікава, што пахаваны Макіявелі ў Фларэнцыі побач з Мікеланджэла і Галілеем.

**1942.** У Кіеве прайшоў футбольны «матч смерці». Футбалісты кіеўскага «Дынама» гулялі са зборнай Люфтвафэ, узмоцненай прафесіяналамі, і выйгралі з лікам 5:3. Лепшых гульцоў са складу «Дынама» пасля матчу расстралялі.

### 23 чэрвеня

**1902.** Нарадзіўся Ховард Энгстрэм, стваральнік першых дзіцячых канструктараў.

**1902.** Аўстра-Венгрыя, Германія і Італія ўтварылі на 12 год Трайны саюз.

**1912.** Нарадзіўся англійскі матэматык Алан Цьюрынг, чые працы паслужылі асновай для стварэння ЭВМ.

### 24 чэрвеня

**1497.** Венецыянскі марак Джо Кабот адкрыў Канаду.

**1717.** У Англіі створана першая ў свеце масонская ложа.

**1732.** Нарадзіўся французскі драматург П'ер Агюстэн Бамаршэ, аўтар «Севільскага цырульніка» і «Вяселля Фігара».

**1812.** Армія Напалеона пераходзіць Нёман – гэта пачатак руска-французскай вайны 1812 году. Беларусы ваявалі і за тых, і за другіх. З таго часу засталася такая гісторыя: калі ў беларускай бабулі спыталі, за каго яна, тая адказала, што хоча, каб рускія французаў пагналі ды так далёка, што і самі б не вярнуліся.

### 25 чэрвеня



**1852.** Нарадзіўся вядомы іспанскі архітэктар Антоніо Гаўды. Самы вядомы будынак, які ўзвёў Гаўды і які дабудоўваецца дагэтуль, – сабор Святога Сямейства ў Барселоне.

**1857.** Французскі паэт Шарль Бадлер выпусціў зборнік «Кветкі зла».

**1867.** У амерыканскім штаце Агайо афармлены першы патэнт на калючы дрот.

**1977.** Амерыканец Рой Саліван патрапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса пасля таго, як у яго ў сёмы раз ударыла маланка. А вось памёр ён не ад маланкі. Саліван скончыў жыццё самагубствам ад нешчаслівага кахання.

**1997.** Памёр Жак-Іў Кусто, французскі акіянограф, аўтар фільмаў «Падводная адысея капітана Кусто», стваральнік акваланга.

### 26 чэрвеня

**1892.** Нарадзілася Пёрл Бак, першая амерыканская пісьменніца, якая была ўганараваная Нобелеўскай прэміяй «за шматбаковае, сапраўды эпічнае апісанне жыцця кітайскіх сялян і за біяграфічныя шэдэўры». Рэч у тым, што пасля нараджэння пісьменніцы яе бацькі-місіянеры перабраліся ў Кітай, дзе Бак пражыла да 1933 году.

**1902.** Нарадзіўся Уільям Лір, амерыканскі інжынер-самавук, які заснаваў першую авіякампанію па вытворчасці невялікіх і недарагіх самалётаў бізнес-класу для прыватных асобаў. Апрача таго, ён стварыў першы аўтамабільны радыёпрыёмнік і кампактны аўтапілот. На рахунку Ліра паўтары сотні патэнтаў на вынаходкі.

**1977.** Адбыўся апошні канцэрт Элвіса Прэслі.

**1992.** У фінале чэмпіянату Еўропы па футболе зборная Даніі перамагла каманду Германіі з лікам 2:0. Цікава, што датчане патрапілі на чэмпіянат толькі дзякуючы дыскваліфікацыі з-за вайны на Балканах зборнай Югаславіі.

### 27 чэрвеня

**1967.** У англійскім Энфілдзе запрацаваў першы ў свеце банкамат па выдачы гатоўкі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 21 – 27 чэрвеня

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.*


**АВЕН.** Памятайце, што бліжэй пад выходныя магчыма ўсё. Цешаць пакупкі, асабліва аўтамабільныя, удаюцца шоп-туры, паездкі. Някепска было б наладзіць сабе сапраўдны летні адпачынак, імпрэзы дзеля забавы. Але ў пятніцу будзьце надзвычай асцярожныя на вадзе і паблізу водных крыніц, асабліва ў навальніцу.


**ЦЯЛЕЦ.** Не спадзявайцеся больш на блізкіх, думайце, як самому ўзяць тое, што вам належыцца, пагаварыць пра аплату працы. Перыяд «угнойвання глебы» сканчаецца, пара збіраць ураджай. У аўторак і сераду павышана верагоднасць атручэнняў. Правярайце лекі на тэрмін прыдатнасці.


**БЛІЗНЯТЫ.** Вы сустрэнеце шмат сяброў і знаёмых, якія могуць дапамагчы ў справах. Калі ёсць магчымасць – выпраўляйцеся ў дальнюю дарогу, павышайце сваю адукацыю, любуйцеся помнікамі культуры.


**РАК.** У выходныя не след навальваць на сябе праблемы ці рэчы, як на ўючную жывёліну, інакш некаму спадабаецца на вас «ваду вазіць». Наадварот, чым больш людзей вы ўцягнеце ў сваю сферу зацікаўленняў, тым болей магчымасцяў адкрыецца перад вамі. Свае зберажэнні ў панядзелак пажадана або хаваць, або не абнародаваць выдаткаў з іх.


**ЛЕЎ.** Асноўны матыў дзейнасці ў нядзелю і панядзелак павінен быць рацыянальны, навуковы; не паддавайцеся пачуццям. Ёсць шанец распрацаваць арыгінальны план дзеянняў, выявіць літаратурныя здольнасці і талент вынаходніка. У аўторак і сераду ні ў якім разе не след дапускаць ператамленняў як у фізічным сэнсе, так і ў маральным.


**ПАННА.** У нядзелю і ў панядзелак у сужонка, блізкага чалавека можа скласціся заблытаная сітуацыя з медыцынаю. А ў некага выразна акрэсліцца праблема пазыкаў. Каб не румзаць, загружайце сябе разумнаю працаю, выходзьце ў людзі, вырашайце праблемы, але без чаркі.


**ШАЛІ.** Ёсць сэнс у пятніцу і ў выходныя прадстаўляць на суд грамадскасці свае дасягненні, красамоўна пераконваць у неабходнасці прапанаванай ідэі. У нядзелю і панядзелак меней думайце пра «загубленае» жыццё. Можа здацца, што каханне мінулася, але гэта падманлівае ўражанне.


**СКАРПІЁН.** Вы здатныя ўмела спалучаць інтарэсы начальства, партнёраў, якія вас цікавяць, і ўласныя пажаданні што да ўмоваў працы, ліквідацыі праблемаў са здароўем. У аўторак і сераду варта лічыцца з роляю няшчаснага выпадку, які можа «дагнаць» падарожных, навукоўцаў-эксперыментатараў, журналістаў.


**СТРАЛЕЦ.** Ёсць сэнс прызначаць сустрэчы і дзелавыя гутаркі на найвышэйшым узроўні. Надыходзіць выдатны перыяд, каб праводзіць рэкламную кампанію, культурна-масавыя мерапрыемствы, судовыя працэсы, а таксама грашовыя аперацыі.


**КАЗЯРОГ.** Кур'ёзныя сімпатыі ці падазронасць могуць нямала папсаваць нервы ў нядзелю і панядзелак. Павышана таксама рызыка скандалаў, ашуканых спадзяванняў, маёмасных стратаў, прапажаў. Уплывовыя людзі выяўляюць да вас сімпатыю.


**ВАДАЛІЎ.** Болей грацыі, какецтва, вы адвострываеце ўменне прыгожа падаваць сябе. Тонкі густ, красамоўства, артыстызм – тыя якасці, якія могуць прывабіць тых, хто вам патрэбны ў жыцці. Верагодна, сужонак мала вас разумее, але прэтэнзіі мімалётныя, ім можна даць рады. Лёгкі рэжым вельмі пасуе для адпачынку, адкрыцця новых мясцінаў.


**РЫБЫ.** Вы адчуеце прыліў сілаў, калі ўмела скарыстаеце з дапамогі бацькоў, блізкіх сваякоў. Нехта з сямейнікаў паспяхова ўладкоўваецца ў жыцці. У аўторак і сераду існуе небяспека перабояў у сардэчна-сасудзістай сістэме, болю галавы, нястачы фізічных сілаў. Паспрабуйце агарадзіць сябе ад бясплённых перажыванняў у асабістым жыцці.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






Галандыя. Не мыццё бялізны, а мастацтва такое. Усе гэтыя кашулі, што развяваюцца ў дзюнах, – арт-праект *Styx Theatre*, вялізная інсталяцыя.

# У Лондане аднавілі цырк гладыятараў

## *Рэстаўрацыя, якая заняла 14 гадоў*

У англійскай сталіцы адкрыўся рымскі амфітэатр – праз паўтары тысячы гадоў пасля закрыцця. Як мяркуюць даследчыкі, стадыён быў збудаваны ў першым стагоддзі нашай эры. Яго выпадкова знайшлі ў 1988 годзе пры раскопках у раёне Гілдхола (будынка ратушы лонданскага Сіці, збудаванага ў сярэднія вякі). Рэстаўрацыйныя працы працягваліся 14 гадоў, і цяпер лонданцы і госці брытанскай сталіцы атрымалі магчымасць убачыць арэну амфітэатру, на якой некалі адбываліся баі гладыятараў. Кіраўнік аддзелу старажытнай гісторыі Музею Лондана Хедлі Свейн кажа, што па стандартах таго часу гэта была вялізная пабудова – амфітэатр змяшчаў 6 000 чалавек, і гэта калі ўсё насельніцтва Лондану не перавышала 24 тысяч. Але як на Рымскую імперыю, будынак быў не надта вялікі – увесь амфітэатр мог бы цалкам змясціцца на арэне рымскага Калізею. Каменныя муры вышынёй 2 метры падтрымоўвалі земляныя ўмацаванні, на якіх і знаходзіліся месцы для гледачоў. Па словах Хедлі Свейна, цалкам магчыма, што нейкая група гладыятараў-гастралёраў пабывала ў Лондане, на ўскрайку тагачаснай Рымскай імперыі. Раскопкі абышліся ў 4 мільёны фунтаў, а наступныя рэстаўрацыйныя працы каштавалі яшчэ 1,4 мільёна.

ПСІХЕЯ

# *Лабараторыя сноў*

У рамках буйнамаштабнага эксперыменту пад назвай «Лабараторыя сноў» на просьбу вучоных з Уэльскага універсітэту 10 000 наведнікаў брытанскіх бібліятэк адказалі на пытанні спецыяльнай анкеты. Апытанне мелася высветліць, ці існуе нейкая ўзаемасувязь паміж уражаннямі, якія чалавек атрымлівае ў штодзённым жыцці, найперш з кніг, і зместам сноў, іх частатой і памяццю пра іх. Вынікі даследавання аказаліся цікавымі і ў чымсьці нечаканымі. Так, аматараў белетрыстыкі, па-першае, наведваюць у снах найбольш дзіўныя мроі, а па-другое, яны даўжэй за іншых захоўваюць іх у памяці. Чытачам, захопленым фантастыкай, часцей бачацца кашмары, а часам яны спяць пры неадключанай свядомасці, інакш кажучы, усведамляюць, што яны спяць. Найбольш эмацыйныя сны бачаць чытачы любоўных раманаў. Даследаванне таксама паказала, што наймацней адчуваюць уздзеянне кніг дзеці. Па словах доктара Марка Блэгроўва, «чым меншае дзіця, тым больш чытанне яго ўражвае». Таму, прыкладам, дзеці, якія чытаюць страшныя казкі, бачаць у тры разы болей кашмарных сноў, чым іхнія аднагодкі, якім не даюць чытаць «страшылак» і не дазваляюць глядзець іх па тэлевізары.

# Пакаранні па-іранску

***У руках суддзі святая кніга не ведае сумневу. Каран, 5:38 – «Злодзею і зладзейцы адсякайце рукі ў адплату за тое, што яны прыдбалі, як застрашанне ад Алаха. Сапраўды, Алах – вялікі і мудры!» Гэта адзін з наказаў шарыяту – ісламскага закону, які дзейнічае ў такіх краінах, як Іран, Судан, Самалі ці Саудаўская Аравія.***

Іранская прэса нядаўна паведаміла аб прысудзе тром кішэнным зладзеям, кожнаму з якіх адрэзалі правую руку, а калі раны загояцца, яны пазбавяцца яшчэ і левых ног. За адмову прызнацца ў сваіх злачынствах яны атрымалі 80 удараў бізуном. Суддзя палічыў, што абвінавачаныя здзейснілі крадзеж не ў першы раз, а таму і пакаранне было адпаведным: за першы крадзеж схопленаму злодзею адсякаюць пальцы, за другі – кісць рукі, а ў трэці раз – яшчэ і нагу, супрацьлеглую адсечанай руцэ.

На працягу першых двух гадоў пасля стварэння ў 1979 годзе Іранскай Ісламскай Рэспублікі, калі да ўлады прыйшлі нядаўнія вучні хворых на сярэднявечча семінарыяў, ампутацыі рук і ног праводзіліся добра навостранай шабляй, без анестэзіі і наступнай медыцынскай дапамогі. Але апошнім часам на пакаранні дазваляецца прысутнічаць лекару, каб ахвяра прысуду не страціла зашмат крыві, а ў рану не занеслася інфекцыя. А замест шаблі цяпер карыстаюцца электрапілой ці спецыяльнай гільяцінай.

З усіх метадаў выканання смяротнага прысуду ўлады найбольш упадабалі павешанне. Скарыстоўваючы пад'ёмныя краны, аятолы знайшлі танны і павучальны спосаб, як пазбаўляцца ад злачынцаў – гомасексуалістаў і палітычна ненадзейных грамадзянаў. Магчымасці такой тэхнікі дазваляюць не толькі паспяхова выканаць смяротны вырак, але і выставіць на агляд труп павешанага.

Аднак публічныя смяротныя пакаранні не здаюцца мноству іранцаў павучальнымі і з кожным разам выклікаюць усё больш пратэсту. Напрыклад, 13 траўня на плошчы Хаваран у Тэгеране з'явіліся пад'ёмныя краны, каб правесці паказальнае пакаранне. Назаўтра зранку каля тысячы чалавек чакалі на плошчы прыбыцця паліцэйскіх фургонаў. Як толькі шасцёра вязняў ва ўзросце ад 30 да 38 гадоў, якіх вінавацілі ў крадзяжах і гандлі наркотыкамі, выйшлі з фургонаў з павязкамі на вачах і звязанымі рукамі, натоўп пачаў выкрыкваць *«марг бар ахунд»* (смерць святарам) у адрас прадстаўнікоў ісламскага суду і спрабаваў вызваліць вязняў. Паліцыя разагнала натоўп газам і дубінкамі. Пасля гэтага выпадку яшчэ чатырох вязняў, абвінавачаных у гомасексуалізме і гандлі наркотыкамі, аятолы пастанавілі пакараць смерцю ўжо проста на двары тэгеранскай турмы Эвін.

Яшчэ адзін распаўсюджаны спосаб здзяйснення смяротнага пакарання – закідванне камянямі (лапідацыя). Паведамленні ў газетах пра лапідацыю – такая ж звычайная рэч, як і само гэтае пакаранне. Злачынствы, якія інкрымінуюцца жанчынам, ніколі не згадваюцца, бо судовыя разгляды такіх справаў праходзяць без прысутнасці адвакатаў і за зачыненымі дзвярыма.

Закідванне камянямі – адзін з самых жахлівых спосабаў, каб усмерціць злачынцу, бо асуджаная памірае толькі праз некалькі гадзінаў, церпячы невыносныя пакуты. Новая хваля падобных смяротных прысудаў – рэакцыя самага жорсткага сектару ісламскага рэжыму, але ўхваляюць яе і прыхільнікі памяркоўнага прэзідэнта Хатамі.

У крымінальным кодэксе Ісламскай Рэспублікі адзначана, што лапідацыяй, згодна з шарыяцкімі законамі «Хадуд», караюцца такія злачынствы, як, напрыклад, шлюбная здрада і прастытуцыя. У Каране нават удакладняецца памер камянёў, якія ўжываюцца для гэтай экзекуцыі: «яны не павінны быць такія вялікія, каб той, каго закідваюць, не памёр ад двух ці трох удараў, і не такія малыя, каб наогул не лічыць рану ад каменя ўдарам».

**El Mundo**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ № 1159
Нумар падпісаны ў друк 20/06/2002 (12:00) Тыраж – 6.830